PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 49 (2117) Год XLI Беласток 8 снежня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Дзеячы грамадскія і культуры, творцы і педагогі былі ўшанаваны за шматгадовую дзейнасць на беларускай ніве — Хведар Галёнка, Янка Крупа, Віктар Швед, Люба Трахімчук, Янка Зенюк...*

# За шматгадовую працу на ніве

Міра Лукша

**Два разы атрымаўся канфуз у зале ў час пленуму БГКТ 25 кастрычніка: калі Хведар Галёнка сцвердзіў, што палякі хацелі і хочуць нас знішчыць, незалежна якія яны ёсць, правыя ці левыя, і калі Кастусь Масальскі запрапанаваў сарганізаваць „круглы стол" беларускіх арганізацый, каб паладзіцца і супольна, без сварак працаваць на беларускай ніве.**

Не так у зале, як за прэзідыяльным сталом. Бо, па-першае, было няёмка перад гасцямі-палякамі, якія заўсёды кажуць, што беларусам спрыюць, а падругое, як аказалася, сябра Масальскі выскачыў як Піліп з канапель са сваёй прапановай, супраць лініі. Астудзілі яго і абсадзілі Аляксандр Баршчэўскі і Янка Зенюк, які пачаў цытаваць выказванне Міколы Ваўранюка пра нейкіх „надутых засранцаў" (паляцела яно ў мінулы дзень у эфір, абсалютна не датычыла сабраных на Варшаўскай 11, але чамусьці некаторыя замнога бяруць усяго да сябе і на сябе).

Старыя беларусы, якія для БГКТ і беларусаў зрабілі і робяць шмат, якім залежыць, каб добра ў нас было, папрасілі мяне: „Напішы аб'ектыўна, Міра. Усё ж добра робім, стараемся". Праўда. Старшыня Сычэўскі ўспамінае іх сяброў, якія разам з імі будавалі арганізацыю, трымаліся разам, і іх няма ўжо ў жывых. Доўгі спісак вядомых і забываных паціху прозвішчаў. Шмат з таго, што яны адваявалі, мы страцілі, хоць бы школьніцтва. Ушанавалі мы іх хвілінай маўчання. Хацелася б, каб хоць нейк сімвалічна ўшанаваць іхнія імёны ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы. А ён і сёння пачаў чамусьці... дзяліць. Памятныя граматы і медалі 40-годдзя БГКТ уручыліся амаль усім прысутным на пленуме — настаўнікам, дзеячам, працаўнікам і любіцелям культуры, якія даюць з сябе сапраўды больш, чым можна сабе ўявіць. Паявіліся і маладыя, і хіба гэта можа натхняць дзеячаў БГКТ, не павінны сябе адчуваць як апошнія з магікан. На жаль, разважалі дыскутанты, не ідуць у народ, як павінна, беларускае слова і кніга. Фестывалі і агляды песні збіраюць магутны лік зацікаўленых, купляюць яны касеты з запісамі песень, а кніжкі і календары — не чытаюцца. Не ведаюць людзі мовы, нават... літар, бо не вучаць іх у школе. Гаварылася і аб тым, каб падняць свядомасць беларусаў, уводзіць у школьныя веды гісторыю нашай малой зямлі і Беларусі. Панаракалі на недахоп грошай, на моладзь, якая не ўмее гуляць (гонар „Басовішча" ратавалі Ніна Абрамюк і Міхал Голуб, бо былі там і ўсё бачылі). Нараканні паўтараліся: ёсць і цяжкасці, хоць бы з прычыны таго, колькі мы ўсяго страцілі — ад малой актыўнасці гурткоў у „тэрэне", недахопу памяшканняў, праблем з сядзібай БГКТ у Беластоку, бо і так немагчыма яе будзе ўтрымаць, калі нават яе ваявода дасць БГКТ, і рамонт тут патрэбны ад падруб па дах, да нэндзных грашакоў на мерапрыемствы... Але і радасці колькі было: удалося арганізаваць фестываль песні, 22 народныя фэсты па вёсках і гарадах, таксама і там, дзе нас даўно не было з нашай культурай. Падбадзёрыла і моладзь: яны гатовы хоць зараз брацца за рамонт будынка, не толькі танцы ім у галаве, і хочуць, каб для іх і малодшых вялося тут навучанне беларускай мовы. Добрым словам суцешыў і Янка Целушэцкі — ён заўсёды знойдзе магчымасць карыснага дзеяння і арганізаваць амаль з нічога і гэта прапагандаваць, цяпер яго сілы ўзмоцніліі Гайнаўку, каб „зясеяць зерне, якое ўзрастае і рунее" (ён, Віктар Швед і Алесь Баршчэўскі дамагаліся арганізацыі аўтарскіх сустрэч, каб слова ішло да людзей, як раней было). Апрача вядомых імпрэз, БГКТ прапануе арганізаваць Прэзентацыі культуры нацыянальных меншасцей, з усяе Польшчы, хаця, на жаль, пакуль ідэя была ў планах, некалькі гарадам удалося сарганізаваць гэта раней. Не задавальняе БГКТ і тое, што Міністэрства адукацыі чамусьці ў камісію па справах праграм запрапанавала толькі Яўгена Вапу (не *толькі*, меркавала я з выказванняў, а што якраз **яго**), калі БГКТ мае большае права рэпрэзентаваць беларускае школьніцтва, хоць бы па прычыне таго, што арганізуе конкурсы, агляды, алімпіяду беларускай мовы. Gremium папрасіла прысутных паслоў Беластоцкай зямлі, каб паспрыялі яму ў міністэрстве і паставілі ўсё на месца, выправілі гэтую несправядлівую памылку і знявагу. Калі справа ў дэпутатах, сярод іх былі Сяргей Плева (не быў да канца на сходзе, бо запрасілі яго на імпрэзу ўкраінцы, а ён нікому не адмаўляе), Станіслаў Малі-

*(працяг на стар. 5)*

# Дзве Беларусі

Андрэй Мельнікаў у інтэрв'ю, якое даў ён Алегу Латышонку („Ніва", н-р 46), сказаў, што ёсць дзве Беларусі, два беларускія народы: адзін — з-пад знаку Пагоні і бел-чырвона-белага колеру, другі — з-пад знаку вянка каласкоў, зоркі і чырвона-зялёнага колеру. Гэтыя супольнасці жывуць у тых самых гарадах, працуюць у тых самых установах, маюць падобныя прозвішчы і імёны, падобную адукацыю, прадстаўляюць нават аднолькавы антрапалагічны тып, але ўсё астатняе іх раздзяляе. Чырвона-зялёныя, якіх прыгнятаючая большасць, карыстаючыся правамі дэмакратыі, выбралі сабе прэзідэнта, слухаюць яго амаль штодзённых паругадзінных прамоў, чытаюць „Савецкую Беларусь" і мараць пра вяртанне савецкай рэчаіснасці. Цешыць іх факт, што ў краме ёсць танная каўбаса і гарэлка. Беларусь для іх гэта нейкае геаграфічнае паняцце.

Побач лукашэнкаўскай Беларусі існуе новая, ужо несавецкая. Гэта, — як піша Ян Максімюк („Ніва", н-р 45), — мільённы народ, свядомы сваёй культурнай і духоўнай супольнасці, ведаючы сваё месца ў свеце. Мінская інтэлектуальная эліта перастала звяртаць увагу на палітычны ідыятызм, які пануе ў краіне. Улады павялі сваіх зялёна-чырвоных у неакрэсленым напрамку і вонкаваму свету здаецца, што Беларусь амаль прапала. У апошніх двух гадах узнікла аднак некалькі дзесяткаў выдавецтваў, фондаў, арганізацый, якія стварылі альтэрнатыўныя, незалежныя ад улад цэнтры фармавання грамадскай думкі. Дзейнасць гэтых цэнтраў накіравана перш за ўсё на беларускія эліты. Каб захаваць іх сувязі з еўрапейскай цывілізацыяй, у якую непазбежна вернецца Беларусь, прапагандуюцца найчасцей творы еўрапейскіх філосафаў, палітолагаў, сацыёлагаў, літаратуразнаўцаў. Пачатак гэтаму працэсу дала віленская „Наша ніва", якая аднак разам з пераездам у Мінск, з часам памяняла свой характар, але большасць яе аўтараў знайшлі новыя магчымасці працягваць папярэднюю дзейнасць.

Толькі што выйшла з друку на беларускай мове кніжка Жаны Эрш (Jeanne Hersch) *Філасофскае здумленне. Гісторыя заходняй філасофіі.* Гэты дар для беларускай інтэлігенцыі падрыхтавалі маладыя беларускія інтэлектуалы Ігар Бабкоў, Віялета Кавалёва і Валянцін Акудовіч. Беларускі чытач, які да гэтай пары ведаў толькі вульгарную савецкую інтэрпрэтацыю філасофіі, атрымаў упершыню непалітызаваны аналіз роздумаў Платона, Дэкарта,

*(працяг на стар. 4)*

# Мы прачыталі

*Oficjalnie partie polityczne są biedne jak mysz kościelna. Ot, kilka biurek, telefon, czynsz według taryfy ulgowej, raz do roku zjazd w ciasnej sali. Słowem szlachetne ubóstwo i nobilitująca nędza. Prawdziwe życie partyjne toczy się bowiem gdzie indziej, czyli w luksusowych lokalach, biurach, samochodach, hotelach opłacanych przez państwo tym partiom, które wchodzą do parlamentu.*

*Polityka, nr 46*

* * *

*Краінай нельга кіраваць, як калгасам,* — заўважае

*Свабода, н-р 83*

* * *

*Ці будзе ў нашай школе месяц беларускай культуры і беларускай мове,* — пытае

*Наша слова, н-р 43*

* * *

*За культуру — супраць невуцтва, дзікунства і цемрашальства,* — заклікае змагацца

*Літаратура і мастацтва, н-р 43*

Паўтараюцца лозунгі беларускіх адраджэнцаў канца XIX стагоддзя.

* * *

*У прэзідэнта баліць сэрца за культуру.*

*Культура, н-р 43*

Ідзе пра прэзідэнта Ельцына.

* * *

*Міністр абароны Леанід Мальцаў падчас пасяджэння Мінскага медыцынскага інстытута выйшаў да мікрафона нібыта ў нецвярозым стане і быў выведзены з залы ахоўнікамі прэзідэнта. Лукашэнка тут жа публічна заявіў, што адпраўляе міністра ў адстаўку. Паводле назіранняў дасведчаных людзей, у кампаніі з Лукашэнкам Мальцаў ніколі не піў больш, чым прэзідэнт. Раней калі нехта аказваўся ў нецвярозым стане на людзях, яго ціхенька выводзілі, а потым „разбіраліся" за зачыненымі дзвярыма. Цяпер прэзідэнт уводзіць новы стыль абыходжання з усімі без выключэння кіраўнікамі як з патэнцыяльнымі казнакрадамі і алкаголікамі. Ён фактычна папераджае, што не проста будзе адпраўляць у адстаўку, але і „размажа" чалавека так, што сорамна яму будзе ісці да дому.*

*Свабода, н-р 84*

* * *

*З першага лістапада ў Беларусі зніжаны цэны на лякарствы.*

*Звязда, н-р 262*

А колькі ўзраслі з першага снежня?

* * *

*Здравствуй, дорогой читатель! Мы живем с тобой в непростое время. Лихорадит экономику, неразбериха в политике, „хромают" здравохранение, образование, культура. Это каждый видит,* — піша прэзідэнцкая

*Народная газета, н-р 281*

Ну что вы, товарищи редакторы! Президент говорит совсем другое.

* * *

*Арестованы были врачи Львовской областной клинической больницы Богдан Федяк и Владимир Дорошенко. Врачи были причастны к поставкам по заявкам из-за границы в качестве доноров для трансплантации внутренних органов психически больных детей. Цена одного органа ребёнка колебалась от 20 до 100 тысяч долларов. По предварительным данным, число младенцев, исчезнувших на Львовщине, было установлено в 114, потом в 127. Стало известно, что больше всего украинских детей торговцы живым товаром вывезли в Германию, Италию, Швейцарию, США. Пересадка почки обходится больному в 40 тысяч долларов, сердца около 100, а печени — почти в полмиллиона!*

*Аргументы и факты, н-р 45*

Такім чынам прадаўжаюць сваё жыццё еўрапейскія і амерыканскія багатыя канібалы. Пра савецкіх гандляроў, якія прадаюць сваіх дзяцей як тавар, нават не варта згадваць.

* * *

*Umarł Bokassa, cesarz-ludojad, jeden z najokrutniejszych afrykańskich dyktatorów. Stary pałac Bokassy w Republice Środkowoafrykańskiej wypełniony był dowodami okrucieństwa — znaleziono m.in. zwały przygotowanego do pieczenia ludzkiego mięsa. Kucharz cesarza zeznał, że Bokassa zapraszał na kanibalskie uczty nieświadomych niczego dyplomatów państw zachodnich.*

*Gazeta Wyborcza, nr 258*

Быць дыпламатам у Афрыцы гэта не толькі цяжкі кавалак хлеба, але перш за ўсё цяжкатраўны кавалак мяса.

* * *

*Dostojnicy Kościoła użyli wobec osób popierających zliberalizowaną ustawę antyaborcyjną następujących zwrotów: „Zbrodniarze", „Mordercy", „Zdrajcy", „Zhańbieni", „Zdradzili Polskę", „Stracili prawo do moralności", „Współuczestnicy zabójstwa", „Przedstawiciele cywilizacji śmierci", „Stalinowscy mordercy polskich dzieci", „Prowodyrzy totalitaryzmu". Otóż ciekawe jest co Jezus mówił o potwarzach. Jego wypowiedź znajduje się w Ewangelii św. Mateusza, 5, 22. „Każdego, kto obraża brata swego, czeka sąd. A ktoby rzekł bratu swemu: ty głupcze — tego czeka najwyższy trybunał. A ktoby rzekł: ty nikczemniku, ten pójdzie w ogień piekielny",* — перасцерагае епіскапаў Зыгмунт Калужыньскі.

*Polityka, nr 44*

# З мінулага тыдня

**Дэлегацыя Сейма**, якую састаўлялі прадстаўнікі ўсіх парламенцкіх клубаў, а якую ўзначаліла віцэ-маршалак **Ольга Крыжаноўска** пабывала ў Беларусі ў часе рэспубліканскага рэферэндуму. Пасля вяртання ў Варшаву яна сказала, што канстытуцыйны рэферэндум — гэта проста фарс. Адмоўна яна ацаніла таксама ролю Расеі ў канфлікце паміж прэзідэнтам і парламентам, паколькі прэсінг Расеі загнаў Вярхоўны Савет у бязвыхаднае становішча.

**24 лістапада** праходзіла пікетаванне беларускіх дыпламатычных прадстаўніцтваў — Пасольства ў Варшаве і Генеральнага консульства ў Гданьску — у знак пратэсту супраць дыктатарскіх памкненняў прэзідэнта **Аляксандра Лукашэнкі** і ў падтрымку дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі.

**Віцэ-маршалак Сейма Марэк Бароўскі** лічыць, што нельга ўсе рашэнні, якія прывялі да стварэння ў Беларусі прыхільнікамі прэзідэнта **Аляксандра Лукашэнкі** новага парламента (двухпалатнага Народнага Сходу), прызнаць адпавядаючымі беларускаму заканадаўству і дэмакратычным прынцыпам. „Думаю, — сказаў ён. — што такая пазіцыя павінна афіцыйна прэзентавацца Сеймам і нашымі дзяржаўнымі ўладамі. Але каб прыдаць ёй большае значэнне, павінна яна быць падмацавана падтрымкай міжнароднай супольнасці, напрыклад, Савета Еўропы".

**У Варшаве** праходзіла пасяджэнне Міжнароднага кангрэса прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў. У яго рабоце прымаў удзел прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў **Уладзімір Карагін**, які гаварыў аб перспектывах развіцця прадпрымальніцтва і гандлёва-эканамічных сувязей у Беларусі ў самы блізкі час. Удзельнікамі кангрэса былі прадстаўнікі дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Яны многа ўвагі адвялі праблемам арганізацыі ўзаемаразлікаў і стану камерцыйных банкаў у гэтых краінах.

**Міністры ўнутраных спраў** і начальнікі паліцыі з Расеі, Беларусі, Літвы, Польшчы, Славакіі і Украіны на рабочым пасяджэнні ў Варшаве прынялі рашэнне пачаць сумеснае аператыўнае дзеянне супраць арганізаваных злачынных груповак. Экспертам з міністэрстваў унутраных спраў гэтых краін даручана да 1 сакавіка наступнага года распрацаваць графікі і парадак сумесных дзеянняў. Міністр унутраных спраў Польшчы **Збігнеў Семянткоўскі** паведаміў, што адпаведныя органы шасці краін вырашылі прымяніць у ходзе супрацоўніцтва не толькі абмен інфармацыяй, але і розныя нетрадыцыйныя метады аператыўнай работы, аж да сумесных аперацый на тэрыторыі зацікаўленых дзяржаў і абмену тайнымі агентамі. Партнёры дамовіліся даць бой рэкету і дарожным грабежнікам, узмацніць кантрольныя дзеянні на вакзалах, у аэрапортах і на гранічных КПП.

**Беларусь** у канцы гэтага года злучыцца па валаконна-аптычных лініях з Польшчай, — заявіў міністр сувязі суседняй краіны **Уладзімір Ганчарэнка**. Такім чынам Беларусь атрымае праз Польшчу выхад на Нямеччыну.

**Казімеж Мараўскі** — лідэр Хрысціянска-грамадскай уніі (UChS „Akcja Ekumeniczna"), дарадца прэзідэнта РП па справах нацыянальных і рэлігійных меншасцей — у інтэрв'ю беластоцкай штодзённы „Kurier Poranny" сказаў: „Мая мара — каб падчас папскага візіту ў Польшчу, які адбудзецца ў наступным годзе, дайшло да сустрэчы папы з патрыярхам Расеі, значыць, да прымірэння Каталіцкага касцёла з праваслаўем. Гэта ляжала б у інтарэсе польскай дзяржавы, якая такім чынам палепшыла б адносіны з Расеяй".

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Рэпартаж Алега Латышонка з Мінска.
- Старонка падрыхтаваная ліцэістамі з Гайнаўкі.
- Эратычныя мары Вандалавага дзеда.

# Весткі з Беларусі

**Спроба кампрамісу**

Прэм'ер-міністр Расейскай Федэрацыі Віктар Чарнамырдзін, старшыня Дзяржаўнай Думы Генадзь Селязнёў, старшыня Савета Федэрацыі Ягор Строеў правялі ў Менску перамовы з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім і іншымі кіраўнікамі краіны з мэтай пошукаў шляхоў вырашэння канфлікту паміж выканаўчай і заканадаўчай галінамі ўлады ў Беларусі і выпрацоўкі кампраміснага рашэння. У выніку прэзідэнт РБ і старшыня ВС 22 лістапада падпісалі пагадненне, у якім пацвердзілі, што рэспубліканскі рэферэндум ад 24 лістапада 1996 г. мае кансультатыўны характар. Вярхоўны Савет у сваю чаргу абавязаўся адклікаць з Канстытуцыйнага суда справу адхілення Аляксандра Лукашэнкі ад прэзідэнцкага паста. Аднак да ратыфікацыі пагаднення парламентам не дайшло і прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў, што вынікі рэферэндуму будуць мець законную сілу.

**Трыумф прэзідэнта**

У канстытуцыйным рэферэндуме прыняло ўдзел 84,2% выбаршчыкаў, з ліку якіх 70,5% падтрымалі лукашэнкаўскі вырыянт канстытуцыі, які значна пашырае прэзідэнцкія паўнамоцтвы. Аляксандр Лукашэнка заявіў, што да калядных святкаванняў сфарміруе галіны дзяржаўнай улады згодна новай канстытуцыі. Выказаў ён меркаванне, што супольна з Вярхоўным Саветам яму ўдасца з саставу цяперашніх дэпутатаў стварыць на працягу месяца Палату Прадстаўнікоў. У іншым выпадку прыгразіў роспускам старога парламента. Лукашэнка выказаў таксама гатоўнасць стварыць новы Канстытуцыйны суд са старога саставу пры ўмове, што „частка суддзяў адмовіцца ад палітычных страсцей". Прадбачваюцца таксама некаторыя кадравыя змяненні ва ўрадзе.

**Пратэст спікера**

Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, які ў знак пратэсту супраць фальсіфікацыі рэферэндуму не прымаў удзелу ў галасаванні, канстытуцыйны плебісцыт назваў фарсам. Адной з падстаў для такога сцвярджэння паслужыла тое, што невядомым застаецца тыраж бюлетэняў для галасавання, якія друкавала адміністрацыя прэзідэнта. Невядома таксама з якіх крыніц фінансавалася правядзенне рэферэндуму, паколькі Цэнтральная выбарчая камісія не атрымала ад урада на гэта грошай. Спікер парламента звярнуўся да сусветнай грамадскасці і кіраўніцтва Расеі з заклікам не дапусціць да замацавання ў Беларусі дыктатуры.

**Ганаровыя доктары**

Пасол Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі ў Беларусі Джэсіка Пірс атрымала дыплом ганаровага доктара ад калектыву Акадэміі парламентарызму і прадпрымальніцтва. Джэсіка Пірс прачытала шэраг лекцый для студэнтаў гэтай прэстыжнай вышэйшай навучальнай установы па пытаннях развіцця прадпрымальніцтва ў Вялікабрытаніі, пазнаёміла з мадэллю і механізмамі ўзаемадзеяння дзяржава — бізнес — прадпрымальнік. Разам з англійскім паслом такі ж дыплом атрымаў і беларускі бізнесмен Алег Марозаў.

**Музычны фестываль**

У Менску адбыўся XXIII Міжнародны фестываль мастацтваў „Беларуская музычная восень". Фестывальныя афішы па традыцыі былі даволі разнастайныя. Сярод выканаўцаў, якія наведалі Менск, былі духавы квінтэт „Экатраван" і кларнетыст Жан Луі Рэнэ з Францыі, дуэт са Швейцарыі, музыканты з Літвы. Аматары музыкі любаваліся таксама святам цымбалаў, якое падрыхтавалі беларускія выканаўцы. У рамках фестывалю адбыўся творчы вечар прафесара Віктара Роўды, які больш за трыццаць гадоў з'яўляецца мастацкім кіраўніком і дырыжорам Хору Беларускага тэлебачання і радыё.

**Угодкі маршала**

Імя маршала перамогі Георгія Жукава шырока вядома ва ўсім свеце. Амаль 17 гадоў ён праслужыў на тэрыторыі Беларусі, затым удзельнічаў у яе вызваленні. 1 снежня адзначалася стагоддзе з дня нараджэння палкаводца. „Маршал Георгій Жукаў — найвыдатнейшы палкаводзец і патрыёт" — так называлася навуковая канферэнцыя, якая адбылася ў Цэнтральным доме афіцэраў у Менску.

# У Янове

Восеньскі сонечны дзень. На вуліцах нашых вёсак наогул пуставата. Час ад часу нехта праедзе трактарам або веласіпедам. У Янове Нарваўскай гміны каля *злеўні* бачу дзве жанчыны; адна з іх капае агародчык, што пры вуліцы. Вітаюся, а паколькі гавару на сваёй гаворцы, жанчыны адразу бяруцца гадаць, з якое вёскі родам заблудзіўшы да іх незнаёмы. Згадваюць надзіва хутка.

— Што вы тут хлусіце гэтаму чалавеку! — жартуе падыходзячы да нас мужчына.

Пытаю пра вясковыя справы. Добра папаў, бо спатканыя мною людзі — размоўныя, а да таго адна з жанчын — солтысава жонка; солтыса няма, паехаў па справах у Нарву. Адказы даволі агульныя, бо ж не раскрыешся чужому чалавеку, хаця ўжо крыху і вядома, хто ён такі. Дзіўлюся, што кабета капае агарод у канцы амаль лістапада.

— Бо штось трэба рабіць — адказвае.

— То вы не пенсіянеры?

— Пенсіянеры.

— Усе ў вёсцы?

— А трох або чатырох яшчэ гаспадараць.

— І што яны робяць?

— Дабытак трымаюць.

— Многа?

— У аднаго то хіба з сем дойных.

— А вы таксама трымаеце?

— Яна па трыццаць літраў здае! — пра жанчыну ў агародзе жартуе мужчына.

— І куды малако здаеце, сюды ў *злеўню*?

— Не, самаход з Гайнаўкі прыязджае і адразу *камputэрово бадае* і забірае.

— А *склеп* ваш працуе? — пытаю пра краму.

— Працуе. Уласнік у Гайнаўцы жыве, а *склепова* наша; два разы ў дзень адкрывае.

— Самаходы з таварам таксама прыязджаюць?

— Бываюць.

— То мусіць вы багатыя, калі столькі купляеце?

— Пэўна, што багатыя! Мы ж *рэнцісты*, штомесяц грошы атрымоўваем.

— Крыху моладзі ў вёсцы ёсць?

— Дзве дзяўчыны, ну і шмат хлопцаў.

— То дзяўчыны маюць *поводзэне*!

— Але яны жывуць у горадзе; на свята толькі прыязджаюць. Як на Каляды з'едуцца, спяваюць.

— Калядуюць можа?

— А як жа!

— Да якога прыхода належыце: не да Пухлаўскага — царква праз рэчку?

— Да Кленік, але і пухлаўскія святы святкуем.

— Святам жанчыны ідуць памаліцца, а мужчыны пахмяліцца, — дадае весялун.

— Ці ў вёсцы ёсць апусцелыя хаты? — пытаю.

— Каб без гаспадара, то не. Вось нядаўна адзін варшавяк купіў тут хату, і з Беластока адзін мае.

— А можа вы хочаце пляц купіць? — пытае мяне мужчына.

— Пакуль не, — адказваю і пытаю пра былую школу.

— Асталіся два будынкі. Адзін наймае адна *баба* з Нарвы, а другі наш — ладзім там *імпрэзы*, забавы.

Пытаю, як дайсці паглядзець на рэчку.

— У вёсцы не дойдзеце, балота. Але за вёскай ёсць прамежак у лесе; там добра відаць і Пухлы, і Целушкі, і Канюкі, — настаўляе мяне мужчына.

Развітваюся са сваімі суразмоўцамі. Выязджаю за вёску і выходжу на тое месца, пра якое мне гаварылі. Від цудоўны: ад края да края пакінутая ледавіком спадчына — прадаліна Нарвы, і тыя тры вёскі на яе паўночным беразе.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота аўтара*




*Янова.*

# Канфлікту не адбылося

На надзвычайнай сесіі Гарадской рады Бельска-Падляшскага 22 лістапада на разгляд ставіўся ўсяго адзін пункт: прысваенне Пачатковай школе № 5 імя Шарых Шарэгаў. Тым не менш, зацікаўленне грамадскасці было, як і самая сесія, надзвычайнае. У першым радзе публікі сядзеў — у зялёным мундзіры з белачырвонай павязкай на рукаве — гратэскнавядомы старшыня Рады папярэдняга склікання Ян Радкевіч (не датрываў ён канца паўнамоцтваў, бо не сцярпелі пастаяннай кампраметацыі калегі з ягонага палітычнага клуба).

— Апошнім часам у рэгіянальнай прэсе паявіліся артыкулы пра варожае стаўленне Управы горада да гэтай ініцыятывы, — пачаў сваё выступленне бурмістр Андрэй Сцепанюк. — Але гэта пані дырэктар разаслала запрашэнні на ўрачыстасць прысвоення імя, не паведамляючы пра нішто Гарадской радзе, было не было, кіраўнічаму органу. Не толькі без пастановы, але і без ведама Гарадской рады былі надрукаваны афіцыйныя бланкі, на якіх школа ўжо называецца „Шарых Шарэгаў". Ніхто не супраць гэтаму імю, абурае нас толькі спосаб, у які ажыццяўляецца годная пахвалы ідэя. Гарцэры ваеннага часу не заслужылі такую іх тракоўку.

Варта нагадаць, што Пачатковую школу № 5 — як трохкласную! — адкрыў у 1992 годзе ў былым камітэце партыі тадышні куратар Пётр Літэрмус. Будынак стараліся атрымаць Музычная школа і „тройка". Куратар аднак заявіў, што ў цэнтры горада патрэбна яшчэ адна пачатковая школа, бо дзецям польскай нацыянальнасці далей у школу, чымсьці беларусам. Цяпер там 330 вучняў, найстарэйшыя — шасцікласнікі.

Калі бурмістр прадстаўляў невясёлыя перспектывы асветы ў горадзе — у навучальным годзе 2002/2003 у пачатковых школах будзе менш на 1400 дзяцей, а гэта паўтара раза больш чым „тройка" і амаль пяць разоў больш за „пяцёрку" — і сказаў пра магчымасць закрыцця аднае са школ, публіка загула: „bzdury"! Старшыня Рады Васіль Ляшчынскі абяцаў выкінуць крыкуноў з залы, а калі гэта не паможа — спыніць сесію. Вэрхал падымаўся яшчэ некалькі разоў, але найбольш воплескамі.

Усе радныя, што бралі слова ў дыскусіі, падкрэслівалі вялікую ролю Шарых Шарэгаў у гісторыі Польшчы. Канспірацыйнае гарцэрства перыяду II сусветнай вайны, як патрон школы, будзе выхаваўцам патрыятызму сённяшняй моладзі. Усё замяшанне ўзялося адтуль, што кураторыя, перадаючы 1 студзеня пачатковае школьніцтва ў распараджэнне самаўрадаў, не паінфармавала Гарадскую раду, што ад восені мінулага года вядуцца старанні аб прысваенні гэтай школе імя. А дырэктар Крыстына Зайко палічыла мінулагоднюю адабрэнне ініцыятывы кураторыяй канцом справы і не выканала ўсіх сваіх абавязкаў, патрэбных падчас такога тыпу працэдуры.

Між тым, „Gazeta Współczesna" раздзьмула справу амаль да палітычнага канфлікту, які ў Бельску пакрываецца яшчэ і з нацыянальным. Расчараваліся напэўна тлумна прыбылыя на сесію гледачы, бо такога канфлікту не атрымалася. Рада горада без аднаго голасу супраціву (21 радны — за, 2 — устрымаліся) пастанавіла прысвоіць Пачатковай школе № 5 у Бельску імя Шарых Шарэгаў.

Пасля галасавання, у кулуарах, радны Арсень Артысевіч прыпомніў, што спаўняецца якраз сорак гадоў іншаму патрыятычнаму пратэсту ў Бельску. Восенню 1956 года бацькі ў абароне польскасці дэманстравалі пад беларускай школай на рагу вуліц Відаўскай і Міцкевіча.

**М. В.**

# Мода на ашуканства

У нашым грамадстве пайшла зараз мода на ашуканства. Абдурвае адзін аднаго як толькі можа; муж жонку (і наадварот), прадавец кліента, прадпрымальнік працаўніка, а той шэфа... Нават інваліды-пенсіянеры навучыліся гэтай „прафесіі".

Вось што пачуў я нядаўна ў коле чыгуначных кандуктараў. Ёсць на дзяржаўнай чыгунцы закон, які інваліду першай групы дае права везці свайго апекуна без білета пасажырскім цягніком, а на скоры поезд гарантуе 50-працэнтную скідку. Ад апекуна не патрабуюцца ніякія пасведчанні. Хопіць толькі слова інваліда. Такім чынам гэтыя апошнія рашылі, што з-за недасканаласці закона можна крыху зарабіць. І абдурваюць інваліды-пенсіянеры нашу чыгунку, ой, абдурваюць!

Ёсць у Чаромсе такія хітруны (ды не толькі ў нас!), што едуць у Гайнаўку ці Бельск-Падляшскі на рынак і шукаюць сабе апекуна. Калі такога знойдуць, прапануюць яму за палову цаны білета завезці яго дамоў. Ахвотных на такія справы не трэба доўга шукаць, асабліва зараз, калі ўсходнія „турысты" безупынна курсіруюць цягнікамі. У выніку „дагавору", „польскі інвалід" карыстаецца „рускім апекуном".

Кандуктары пачаткова не ведалі як паступаць у такіх выпадках. Справу прадставілі на прафесіянальных курсах свайму інструктару. Раіліся чыгуначных рэвізораў. Як адны, так і другія, пацiскаючы плячыма, разводзяць бездапаможна рукамі; закон ёсць закон!

Некаторыя чаромхаўскія „інваліды" маюць ужо сваіх „штатных" рускіх „апекуноў", з якімі вандруюць па акалічных рынках. Робяць свой бізнес! А грошыкі замест паступаць у чыгуначную касу за праезд цягнікамі, вандруюць у кішэні ашуканцаў.

Няўжо ж нельга адмяніць закон і спыніць хітрыкі несумленных грамадзян? А мо чыгуначныя чыноўнікі проста не ведаюць, як вырашыць гэтую праблему? **(ус)**

# Жыць у згодзе

Да гэтага заклікае вельмі цікавы і праўдзівы артыкул Ганны Кандрацюк п.з. „Восем веравызнанняў" („Ніва", н-р 46). Аўтарка напісала так, быццам сама з'яўлялася жыхаркай Дубіч-Царкоўных. Гэта праўда, што ў нас столькі веравызнанняў, і цешыць сэрца, што мы ўсе жывем у згодзе і талерантна. Шаную і я іншаверцаў, у тым ліку і егавістаў, бо яны руплівыя, шчырыя і старанныя людзі, і карысна браць з іх прыклад.

„Салідарнасць" у Дубічах існавала ў 1981 годзе. Многім на Беласточчыне яна не падабалася і яе крытыкавалі. Але „Салідарнасць" вызваліла Дубічы ад аднаго „царыка", які моцна ўеўся людзям у пячонкі. Сёння „Салідарнасць" у нашай вёсцы не існуе.

Праўду кажа наш войт, сп. Анатоль Паўлоўскі, што ў Дубічах — як у Амерыцы: дэмакратыя і свабода.

**Мікалай Панфілюк**

# Складаныя пачаткі

**Аб аднаўленні школьніцтва пасля II сусветнай вайны расказвае Канстанцін ПЫТЛЮК — былы настаўнік Пачатковай школы ў Клюковічах.**

Працу настаўніка пачаў я ўжо ў час ваеннага ліхалецця, калі ў сваёй вёсцы Вычулкі з верасня 1942 па красавік 1944 года вёў тайнае навучанне для васьмі дзяцей у аб'ёме V і VI класаў. Яшчэ да вайны я закончыў гімназію, а пры саветах вучыўся ў Педагагічным інстытуце ў Брэсце. Падчас нямецкай акупацыі не было ў нас школы, а ў суседніх Клюковічах у мураваным школьным будынку немцы наладзілі шпіталь.

Пад канец ліпеня 1944 г. савецкае войска вызваліла нашу тэрыторыю з-пад нямецкай акупацi. Неўзабаве пачала весціся падрыхтоўка да новага навучальнага года. Ініцыятарам аднаўлення школьніцтва выступіў Вацлаў Вячорак, даваенны кіраўнік школы ў Клюковічах. Ён быў ажэнены з Анняй Куроўскай з клюковіцкай калёніі і ўсю акупацыю жыў на месцы. Вячорак прыцягнуў да школьнай справы мяне (як былога студэнта Пединстытута) і пажылога ўжо Пятра Леўчука, які настаўнічаў пры саветах. Я з'ездзіў яшчэ ў школьны інспектарат у Бельску-Падляшскім і атрымаў пісьмовае прызначэнне на працу ў школе, падпісанае тадышнім інспектарам Янам Франчаком.

Навучальны год 1944/1945 пачаўся ў Клюковічах недзе ў канцы верасня і былі адкрыты класы I—IV. Але неўзабаве кадравая сітуацыя ў нашай школе ўскладнілася. Кіраўнік школы Вацлаў Вячорак (даваенны афіцэр) у лістападзе быў прызваны ў войска, а ў 1945 годзе арганізаваць школу ў суседніх Зубачах адышоў Пётр Леўчук. У школе застаўся я сам на цэлыя чатыры гады. Працаваць аднаму было цяжка. Не было адпаведных падручнікаў, ні дапаможнікаў, а матэрыяльная сітуацыя была так мізэрная, што бацькі абавязаны былі дапамагаць настаўніку.



*Аўтар успамінаў у 1945 г.*



*Настаўнікі і вучні на пачатку 1950-х гадоў.*

У маім хатнім архіве захаваўся пратакол бацькоўскага сходу, які адбыўся 21 верасня 1947 года. У ім чытаем, што з-за сціпласці педагагічных кадраў — у школе працаваў толькі адзін настаўнік — не будуць адкрыты старэйшыя класы. У малодшых класах вучылася тады ажно 118 дзяцей: у I — 30, II — 28, III — 35 і IV — 25 вучняў. Класы былі аб'яднаны — першы з другім і трэці з чацвёртым. У пратаколе запісана, што дзеці павінны мець аднолькавыя падручнікі, а бацькі павінны рэгулярна пасылаць дзяцей у школу, паколькі непастаяннае наведванне школы вядзе да дрэнных ацэнак і ўскладняе працу настаўніка.

На згаданым сходзе быў выбраны бацькоўскі камітэт, які састаўлялі: Ян Адамчык з калёніі Клюковічы, Іосіф Мароз з Клюкавіч, Пётр Тыханюк з Літвінавіч і Аляксандр Мядушэўскі з Вычулак. Я, як кіраўнік школы, звярнуўся тады да бацькоў з просьбай прывезці дроў для школы і зашкліць вокны. Каб прыдбаць школе яшчэ аднаго настаўніка, сход запрапанаваў прыняць на працу былога настаўніка Пятра Леўчука, які жыў у суседніх Літвінавічах. Была нават выбрана адмысловая дэлегацыя з трох чалавек: кіраўнік школы, Ян Чыжык і Феліксь Рэмішэўскі, якая мела ўладзіць гэту справу ў Школьным інспектараце ў Бельску-Падляшскім. Аднак новыя настаўнікі прыехалі ў Клюковічы праз год і тады, у 1948 годзе, былі адкрыты V і VI класы. У навучальным годзе 1949/1950 закончыўся працэс арганізацыі школы. Працавалі ў ёй ужо чатыры настаўнікі, а дзеці вучыліся ў сямі класах.

**Запісаў Віталь Луба**

*Фота з асабістага архіва Канстанціна Пытлюка*

# Жыццё і змаганне таварыша Кім Ір Сена

У бібліятэчцы „Нівы" знаходзіцца вельмі цікавая кніжка, выдадзеная ў 1971 годзе Інстытутам гісторыі партыі Цэнтральнага камітэта Партыі працы Карэі. Кніжка поўнасцю прысвечана рэвалюцыйнай дзейнасці таварыша Кім Ір Сена*. Паўночнакарэйскае пасольства выдала яе на польскай мове, каб расславіць імя свайго правадыра сярод польскіх таварышаў. Невядома, ці тады, апрача рэдактара польскага выдання, нехта яшчэ прачытаў гэту незвычайную біяграфію. Шмат жа было сваіх герояў, пра жыццё і дзейнасць якіх складаліся кніжкі ў цвёрдых вокладках, упрыгожаных залатымі літарамі загалоўкаў. Нават дзеля палітычнай ці прафесійнай кар'еры трэба было некаторым дзеячам арыентавацца ў іх змесце. Таварыш Кім Ір Сен вымушаны быў чакаць. І хаця ў 1971 г. амаль усе супрацоўнікі нашай рэдакцыі былі членамі партыі і мелі маральны абавязак пазнаёміцца са зместам успомненай кніжкі, выйшла так, што пад бліскучыя ад залатых літар вокладкі ўпершыню заглянуў ніжэйпадпісаны. Гэтая кніжка сёння больш цікавая, чым апавяданні Станіслава Лема.

Ужо на першай старонцы можам даведацца, што таварыш Кім Ір Сен — гэта карэйскі нацыянальны герой і самы выдатны правадыр сусветнага камуністычнага руху. У сапраўднасці гэта адзіная інфармацыя, якая тут знаходзіцца, таму што наступныя фразы і старонкі з'яўляюцца выключна сцвярджэннямі, што таварыш Кім сапраўды героем быў. Гэта чытаецца як малітву да старажытнаегіпецкага бога Апіса, а слова „крывавы" выступае там так часта, як „к...ва" ў выказваннях унтэр-афіцэра польскай арміі. І калі пры канцы гэтай інвакацыі аўтары заяўляюць, што няма „большага шчасця і гонару, як вучыцца ў вялікага правадыра Кім Ір Сена, падтрымліваць яго кіраўнічую ролю ў краіне, жыць і змагацца як адданыя яму салдаты", зразу ўзрастае ахвота даведацца, які быў гэты карэйскі бог.

Аказваецца, што „wywodzi się z dziedzicznych patriotów i rewolucjonistów". Яго прадзед Кім Ін У ўжо быў патрыётам і хацеў затапіць „piracki statek nasłany przez amerykańskich agresorów w 1866 r." Невядома ці ўдалося спадару Кім Ін У рэалізаваць гэты намер, але калі думаў змагацца з марскімі разбойнікамі, напэўна героем быў. Дзед таварыша Кім Ір Сена, Кім Бо Хен, і баба Лі Бо Ік таксама былі патрыётамі. У сувязі з тым, што ўжо яго бацька вылучаўся прыкметамі святасці, яго біяграфія таксама складзена ў малітоўнай форме, поўнай прыметнікаў, характэрных апісанню нашага галоўнага героя. Зразумела, што маці таварыша Кіма апрача таго, што была глыбакаверуючай камуністкай, пра нішто іншае не думала, як толькі выхаваць дзяцей на яшчэ больш палкіх камуністаў. Усе дзядзькі, цёткі і іншыя сваякі Кіма гэта людзі адданыя справе камунізму і прытым вялікія карэйскія патрыёты.

У 1926 г. Кім Ір Сен, будучы ліцэістам, заснаваў Саюз звяржэння імперыялізму і гэта — як пішуць аўтары кніжкі — быў зваротны момант у гісторыі Карэі. Наступных сто старонак кніжкі паказваюць чытачу, як карэйскія камуністы, „узброеныя рэвалюцыйнымі ідэямі таварыша Кім Ір Сена", грамілі японскіх, а пасля амерыканскіх імперыялістаў. Агрэсары з'явіліся на карэйскай зямлі, здаецца, толькі таму, каб таварыш Кім Ір Сен мог выявіць сваю звышчалавечую натуру. Як вядома, зямная місія Кіма закончылася ўстанаўленнем раю ў Паўночнай Карэі. Вернікі кімірсенізму паставілі свайму любімаму правадыру тысячы помнікаў, склалі аб ім мільёны вершаў і напісалі незлічоную колькасць старонак прозы. „Towarzysz Kim Ir Sen. — з набожнай пашанай заяўлялі карэйскія гісторыкі, — to nie tylko wielki wódz rewolucji, ale i nauczyciel, pełen miłości ojciec, który wskazuje narodowi drogę w rewolucji i budownictwie oraz troszczy się o jego życie aż do samych drobiazgów, bliski towarzysz, dzielący z narodem smutek i radość. Zawsze znajduje się w samym gąszczu ludu, otacza go ciepłą ojcowską troską. **On zawsze naradza się w sprawach państwowych bezpośrednio z robotnikami, chłopami, ze wszystkimi ludźmi pracy.**

Прэзідэнт Кім Ір Сен нядаўна адправіўся ў бліжэй неакрэсленыя прасторы, але зараз пасля таго факта ў Беларусі аб'явіўся чалавек, які загаварыў яго голасам. І як тут не верыць у пераўвасабленне!

**Яўген Міраловіч**

**Zarys historii działalności rewolucyjnej towarzysza Kim Ir Sena*, Phenian 1971.

# Дзве Беларусі

*(працяг са стар. 1)*

Спінозы, Канта, Гегеля, Фрэйда, Бэргсона, Кіркегара, Ніцшэ, Яспэрса. Апрача кніжных выданняў з'явіліся таксама часопісы, якія намерваюцца сачыць за сучаснай еўрапейскай думкай і непасрэдна прадстаўляць яе беларускім элітам. Прыкладам можа быць квартальнік „Фрагменты", якога восеньскі нумар у большасці прысвечаны праблемам цэнтральнай Еўропы. Змяшчаецца там між іншым славуты тэкст Мілана Кундэры „Трагедыя цэнтральнай Еўропы", а таксама абгрунтаваны аналіз украінскага палітолага Рамана Кіся пра дамінуючую ва ўсходняй палітыцы, за справай Расіі, псіхалогію Паўночнай Арды. Паводле Кіся палітычная логіка хана Мамая ёсць тут больш успрымальнай, чым усе ідэі заходнееўрапейскага рацыяналізму. Беларускаму чытачу прапануецца таксама адказ Марціна Гейдэгера на пытанне: чым ёсць метафізыка? Зразумела, гэтая літаратура не ёсць для ўсіх, але яна менавіта дае шанц беларускай інтэлігенцыі захаваць сувязі з еўрапейскай думкай і навукай. Людзі, якія яе ствараюць, глыбока перакананы, што Беларусь адродзіцца, што беларусы стануць нармальным народам і неўзабаве спатрэбіцца ім свая эліта. **(рэд.)**

# За шматгадовую працу на ніве

*(працяг са стар. 1)*

шэўскі і Мечыслаў Пецка. Малішэўскі пахваліў гаспадароў, што „robią sprawę, nie bawiąc się polityką". Зазначыў ён, што „не ходзіць туды, куды яго не запрашаюць", „залічыў" **усе** беларускія фэсты, і, вядома, выкарыстаў іх не толькі для іх саміх, але і сустрэч з людзьмі, дапамог у некалькіх справах, калі хто прасіў дапамогу. Заўважыў, што сярод іншых беларускіх арганізацый і часопісаў пануе „dziwna zawzięta prawicowość, przeinaczanie i fałsz" ды „społeczność białoruska, ja i BTSK, bliżej jest lewicy, a nie prawicy, konserwatyzmu, religii". Малішэўскі і Плева маюць намер ізноў дапамагаць у арганізацыі пару фэстаў у сваёй аколіцы. Вядома, у „Ніве" будзем пісаць далей пра тыя цікавыя і прыцягваючыя людзей імпрэзы, хоць нас туды ніколі не запрашаюць — маем спецыяльнага карэспандэнта, аб'ектыўнага і скрупулёзнага, які дбае, каб адзначыць усё тое, што робіць БГКТ. Таму прыкра было мне чуць на сходзе, што „Ніва" нават не ўспамінае пра дзейнасць БГКТ, а калі напіша, дык усё збэсціць... М. Пецка, прыслухоўваючыся дыскусіі, заўважыў, што „w waszych rozważaniach dominuje racjonalizm". Сапраўды, выказванні м.інш. Міхала Голуба, Ніны Абрамюк, Кастуся Масальскага, Уладзіміра Юзвюка, маладога Адама Паўлючука былі змястоўнымі, канкрэтнымі. Аматараў песні павінна зацікавіць прапанова М. Голуба стварыць відэатэку з аглядаў песні, якая была б не толькі памяткай, але і метадычным дапаможнікам. Пару асоб хацела звесці дыскусію на пуці супрацоўніцтва і з'яднання сілаў, каб працаваць на роднай ніве згодна і больш магутна выступаць перад іншымі — так гавораць і хочуць нашы людзі, якіх жа ж прадстаўляюць члены пленума. Сядзела я, глядзела, слухала і думала: відна ж, мілыя дзядзькі і цёткі, што і вы хочаце, каб нас было больш, каб забурліў штодзённай працай гэты прыгожы, хоць амаль зруйнаваны будынак! Але ганаровы старшыня БГКТ сказаў: „Мовы няма! Мы з **імі** супрацоўнічаць не будзем. Ёсць месца і прастора для ўсіх арганізацый! А **яны** ўвесь час нас аплёўвалі і аплёўваюць!" „Хай далей брэшуць!" — пра *іх* выказаўся адзін сівавалосы член. Толькі дзіўна мне стала: колькі жыву і працую, не чула я столькі таго „аплёўвання", як у гэты асенні дзень. Але пра гэта пісаць не буду, каб не псаваць настрой дзеячаў на беларускай ніве, якія стараюцца, як умеюць, і хочуць, каб усё было добра. Каб не было „дамінацыі палітыкі над розумам", як заклікаў Ян Сычэўскі.

**Міра Лукша**

*Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА*



*Найбольшы клопат — аб развіцці школьніцтва на роднай мове.*



*Як выйсці наперад і зрабіць яшчэ больш?*

# Вернісаж

22 лістапада г.г. у галерэі „Маршанд" адбыўся вернісаж мастацкіх прац, выкананых на апошнім — трыццаць першым — Белавежскім пленэры. Як вядома, пленэр адбываўся ў першай палове верасня і працягваўся ўсяго два тыдні. Камісарам і галоўным арганізатарам пленэру быў вядомы беластоцкі мастак Ежы Ленгевіч. Апрача яго, у пленэры брала ўдзел яшчэ сем мастакоў: Стэфан Рыбі (наш колішні шматгадовы рэдакцыйны мастак), Андрэй Мушынскі, Аліцыя Хароцей, Янна Серка (былая беластачанка, цяпер — з Варшавы), Вікторыя Талочка-Тур, Тадэвуш Цесюлевіч (з Сопата) і Ірэна Івашчук-Лісевіч.

Як мы ўжо адзначылі ў „Ніве", большасць прац, якія былі намаляваны ў гэтым годзе падчас Белавежскага пленэру, гэта былі мініяцюркі, малыя формы — такія творы, для стварэння якіх не трэба мець шмат матэрыялаў і якія лягчэй прадаць. Нічога дзіўнага: творы мастака — гэта яго хлеб.

Цікавая з'ява, на выстаўцы не ўсе аўтары паказалі якраз тыя працы, якія былі вынікам Белавежскага пленэру. Адны ўжо паспелі тыя працы прадаць, другія — мо саромеліся, бо дома мелі прыхаваныя шмат цікавейшыя і большыя карціны, якія ахвотней паказалі на вернісажы.

Ва ўсякім разе вернісаж выглядаў імпазантна, хаця цесна было і карцінам, і людзям, якія прыйшлі іх аглядзець у „Маршанд" — нібы-галерэю беластоцкіх мастакоў у самым цэнтры Беластока, па вул. Рынак Касцюшкі 17. На самай справе яна тут усяго як дробны дадатак да паўпрыватнай кавярні.

Цяжка быць мастаком у часы, калі вышэй за мастацтва цэніцца кавярня, піццэрыя, дыскатэка. Мо ў Белавежы, куды неўзабаве мае ехаць гэта выстава, карцінам будзе прасторней.

**Ада Чачуга**

# Смерць у родным балоце

З-пад амбулаторыі ў Мілейчычах выплывае рачулка Крупа і зараз трапляе ў даліну, у якой б'юць некалькі іншых крыніц. Яшчэ ў пяцідзесятыя гады даліну перагарадзілі запрудай — атрымалася азерца. Балотнае дно гадамі зарастала аерам і іншым зеллем, дык цяпер наогул гэта вялікая 12-гектарная лужына. Купацца тут немагчыма. Можна, затое, лавіць рыбу. А мясцовыя паляўнічыя страляюць у сезоне па прыбярэжных карчах качак.

Калі спускаюць адсюль ваду і адлаўліваюць рыбу — карпы ды карасі — вадасховішча становіцца суцэльным балотам, па якім цурчаць толькі невялікія ручайкі. Між імі, з сеткамі, ходзяць людзі ў доўгіх рыбацкіх ботах. Здаецца неверагодна, каб мог тут утапіцца здаровы 35-гадовы мужчына.

Але на беразе ляжыць металёвая лодка — тая самая, што перакулілася з трыма паляўнічымі чатыры метры ад берага, якраз у найглыбейшым месцы. Ужо яны вярталіся. Каб яшчэ метрдва, дык пэўна ўсе жывымі вылезлі б на бераг. Або, каб была яна драўляная — не пайшла б на дно і не пацягнула б туды аднаго з пасажыраў.

* * *

Лявон З. працаваў у сямятыцкім ПКС семнаццаць гадоў. За рулём аўтобуса праехаў амаль усю Еўропу, ад Швецыі і Англіі на поўначы, па Італію ды Грэцыю на поўдні. Апошнім часам ужо і не ездзіў па мясцовых маршрутах, а ўсё па замежных. Найбольш — у Бельгію.

Любіў ён паляваць. Бацькі ў падмілейчыцкай вёсцы гадавалі пяць яго сабак. На розных звяроў. Адзін, між іншым, быў вельмі лоўкі на качкі.

Быў верасень, сярэдзіна тыдня. Родныя Лявона З. капалі якраз бульбу, калі ён да іх завітаў. Расказвае маці:

— Прыехаў дзесьці а трэцяй. Памог яшчэ бацьку прывезці бульбу дадому, высыпаць. Казаў, што возьме сабак і паедзе ў Мілейчычы на паляванне, бо яго там прасілі адстрэліць пару качак — меў ён да гэтага спрыт. Якраз пачаўся на іх сезон і яму адно ў гэты дзень была магчымасць папаляваць. Толькі паспеў адпачыць з дарогі і ў пятніцу зноў збіраўся ў Бельгію.

У дзесяць вечара бацькам патэлефанавалі, каб прыехалі ў Мілейчычы, бо з сынам здарыўся выпадак. Калі выйшлі яны з трактара і ўбачылі цела сына на беразе вадасховішча, бацьку схапіў інфаркт.

— Дзве карэткі адтуль на сігнале ехалі, — успамінае са слязьмі маці. — Адна везла нежывога сына, а другая непрытомнага ягонага бацьку.

* * *

Разам з Лявонам З. палявалі камендант паліцыі і лекар мясцовай амбулаторыі (старшыня паляўнічага гуртка). У крыві тапельца аказаўся алкаголь. П'яны быў таксама лекар — тлумачыўся, што выпіў паўлітра пасля гэтага, ад пярэпалаху. Камендант прапаў. Паявіўся толькі праз суткі. Тады ўжо быў цвярозы.

Раённая пракуратура палічыла здарэнне нешчаслівым выпадкам і справу спыніла. Сям'я загінуўшага адклікалася ад гэтага рашэння. Дамагаецца высвятлення ўсяго, што тады здарылася і хто вінаваты ў смерці іх сына. Пытаюцца яны, чаму не анатаміравалі цела. Чаму ніхто не становіць закідаў лекару-лоўчаму, які павінен адказваць за бяспеку на паляванні? Ніхто таксама не абвінавачваў каменданта ў тым, што той, фактычна, уцёк з месца выпадку. Сёння выглядае гэта так, як быццам Лявон З. напіўся адзін, таму і не змог выкарабкацца з-пад перакуленай лодкі.

Сваё расследаванне вядзе дысцыплінарная камісія беластоцкага аддзела Паляўнічага саюза. Бачаць там парушэнні асноўных правіл бяспекі падчас палявання — хто збіраецца страляць качак на змярканні?! — і, праўдападобна, пададуць сваю заяву ў пракуратуру.

Усё гэта, аднак не верне жыцця Лявону З., які пакінуў маладую ўдаву і асіраціў трое дзетак. Трэба ж было чалавеку свет скаласіць, каб знайсці смерць непадалёк хаты. У лужыне.

**Мікола Ваўранюк**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




# Незабыўная сустрэча з VI „ц”

19 лістапада „Зорка” гасцявала ў бельскай „тройцы”. Гэтым разам я наведала вучняў VI „ц”. Упершыню я мела гонар пазнаёміцца з вельмі цікавай моладдзю, сімпатычнымі і цікавымі шасцікласнікамі.

Як вядома, у „тройцы” да тысячы школьнікаў, якія вывучаюць беларускую мову і проста немагчыма з усімі пазнаёміцца. Хіба што вучні і іх настаўнікі самі запрапануюць сустрэчу. Так было і гэтым разам.

Ужо быў позні лістападаўскі вечар. Шасцікласнікі і іх настаўніца беларускай мовы сп. Валянціна Бабулевіч добра падрыхтаваліся да сустрэчы. На працягу дзвюх гадзін мы гаварылі аб працы нашай рэдакцыі, размаўлялі пра найцікавейшыя артыкулы ў „Зорцы”. Аказваецца, што VI „ц” найбольш любіць творчасць сваіх аднагодкаў і конкурсы. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца малюнкі нашых карэспандэнтаў.

Не меншае зацікаўленне выклікалі і «Сустрэчы „Зоркі”», асабліва мастацкія. У шостым „ц” вучыцца бельская моладзь. Але яны ня́дрэнна валодаюць беларускай мовай. Да таго вельмі цікавіць маіх новых сяброў іх паходжанне. Вялікае ўражанне пакінула нядаўняя экскурсія ў Студзіводы. Там шасцікласнікі наведалі этнаграфічны музей Дарка Фіёніка.

— Дарак забараніў нам называць сябе „панам”, — кажуць мае субяседнікі.

Гэта несумненна паспрыяла добрай атмасферы ў час экскурсіі.

Шмат часу прысвяцілі мы таксама размовам пра праводжанне вольнага часу. Мае сябры дапытвалі мяне пра кніжкі, якія варта чытаць, пра цікавыя фільмы. Цешыць зацікаўленне моладзі светам культуры і, зразумела, стаўленнем да беларускай мовы. Большасць шасцікласнікаў, дарэчы, не разумее, чаму бацькі не хацелі пераказаць ім роднай мовы. Здаецца, што мае новыя сябры не будуць саромецца ўжо сваёй спадчыны. Вёска паказваецца ім як вёска, а не свет, якога трэба цурацца. І гэта цешыць. Але каб не развітацца з роднай культурай, трэба многа вучыцца. Менавіта навука лечыць усе комплексы непаўнацэннасці.

— Сёння я хацела б назваць не толькі выдатнікаў, — гаворыць настаўніца, — але і ўсіх энтузіястаў беларускай мовы. Гэта Марыся Альшэўская, Давід Савіцкі, Лукаш Пятроўскі, Марта Федарук, Лукаш Саковіч, Бася Парфянюк, Караліна Іванюк, Магда Кучынская, Ева Яканюк, Ева Сікорская.

Здаецца, што пасля нашай сустрэчы ў VI „ц” будзе яшчэ больш энтузіястаў беларускай мовы і „Зоркі”.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

PS. Побач друкуем апісанне экскурсіі ў Студзіводы, зробленае вучнямі VI „ц” класа.

# Экскурсія ў хату-музей

22 кастрычніка мы з настаўніцай беларускай мовы і выхавацелькай пайшлі ў Студзіводы. Дарога мінула нам вельмі хутка і весела. Мы зайшлі на месца і там пабачылі малую хатку-музей. Мы ўвайшлі ў сярэдзіну, пасядалі на лавах і пачалі разглядацца. Нашу ўвагу адразу прыцягнуў запечак. У мінулым людзі спалі на такіх запечках. Хаця хата была малая, але памясціла яна трыццаць вучняў нашага класа. Многа месца займалі ў ёй вялікая печ і стол. Пад столлю была паліца, на якой стаялі розныя прадметы, патрэбныя ў хатняй гаспадарцы. Дарак пачаў нам расказваць пра жыццё сваіх продкаў. Мы таксама пачалі ставіць пытанні, на якія атрымалі цікавыя адказы. Тут мы пабачылі таксама археалагічныя знаходкі з ваколіц Бельска, між іншым старыя кафлі, знойдзеныя каля нашай ратушы. Мелі мы распаліць вогнішча, але было мокра. Затое каўбаскі, печаныя на пліце, былі больш смачныя за тыя, якія смажым ля вогнішча. Вельмі падабалася мне гэтая сустрэча.

**Марта Раманюк**

* * *

У Студзіводах мы сустрэліся з Даркам у яго хаце-музеі. Гэта была старая хата. Такія хаты мы можам часам пабачыць на вёсках. Усярэдзіне яна выглядала аднак цікава і непаўторна. Дарак сказаў нам, што так выглядалі хаты нашых продкаў. Пад сценамі стаялі лавы і знаходзілася вялікая печ. Пад вокнамі стаяў стол, а на ім ляжалі кніжкі.

Дарак расказаў нам гісторыю Студзіводаў. Калісьці, каб дайсці са Студзіводаў да Бельска, трэба было ісці праз балота.

**Бася Парфянюк**

* * *

Дарак Фіёнік апавядаў нам пра людзей са Студзіводаў і іх штодзённыя заняткі. Аднак планаванага вогнішча не было, таму што дрэва было мокрае. Каўбаскі мы пяклі на пліце. Яны вельмі нам смакавалі. Час хутка мінуў і нам трэба было вяртацца ў школу. Калі мы выйшлі, было ўжо цёмна. Мне вельмі экскурсія падабалася.

**Мацей Рошчанка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 49

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Taks / Rezerwat | | Komar / Stodoła | | Wrzos / Wir | | Ona | | Iran | Warkocz |
| | | | | | | | | | |
| Idol | | | | | | Ara | | | |
| Granat | | | | | | | As | | |
| | | | | Dawny szlachcic białoruski | | Ona | | | |

**Наш слоўнік: баяр** — dawny szlachcic białoruski.

**Адказ на крыжаванку н-р 45:** загаловак, сок, карагод, мука, лаз, кішка, мат, рака, газ, дар, лак, ногі, вош, лад, сум, вока, кат.

Узнагароды — **аўтаручкі (cienkopisy)** — выйгралі: **Ева Гіншт** з Гайнаўкі (ПШ у Новым Корніне), **Сільвія Ракіцкая** з Нарвы, **Дарота Харкевіч** з Дубін, **Марыля Тапалеўская** з Кленік, **Уршуля Тарасэвіч** з Гарадка, **Адам Янюк** з Катоўкі, **Іаанна Сяткоўская** з Нарвы, **Каміля Карповіч** з Гарадка і **Агнешка Занкевіч** з Ягаднік.

Віншуем!

Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Зоркі” або чакаць іх у сваёй школе.

# Кот

Кот любіць малако —
Ён многа спіць.
Калі яго паклічам,
Хутка да нас бяжыць.

Ходзіць ён па дрэвах,
Умее ўвайсці на плот.
Часта ляжыць на падпечку
Наш руплівы кот.

**Адам Грынявіцкі**
**VI клас ПШ у Нарве**

Талон „Зоркі” № 49
08.12.1996

# Як калісь спраўлялі дажынкі

Калі сяляне кончылі жніво, то ладзілі пачастунак — дажынкі. Людзі сходзіліся да гаспадара і там пілі гарэлку, елі лепшыя стравы. Жадалі яны свайму гаспадару здароўя і шчасця ў жыцці.

Асабліва святочна завяршалі касьбу жыта. Пакідалі апошнія сцёблы гэтага збожжа. З іх рабілі перапёлку, якую ў Кнаразах называлі *пэрэпэліцай*. З гэтых сцёблаў зжыналі букет каласоў, а салому ад іх звязвалі і ўпрыгожвалі кветкамі. Перапеліцай была таксама дзяўчына, якая стаяла быццам на паказ пры дарозе. Тады спявалі жніўныя песні:

*У нашого пана*
*До зоры снопы зносят.*
*— Дай ёму Божэ жуонку,*
*сморкату жыдуоўку.*
*— Дай ёму Божэ діэті*
*Коб не меў дэ подіэті.*
або:
*Ой гукну, гукну,*
*Нэхай матуля чуе,*
*Нэхай вечэрэньку смачну ўготуе.*
*Нам вэчэра нэ міла.*
*Нам вэчэра нэ міла*
*Паступлянка втоміла.*

Пасля гуляння побач перапёлкі гаспадыня даставала з кошыка прыгатаваны абед. Пасля абеду ўсе ў вясёлым настроі разыходзіліся. Так канчаліся дажынкі ў бедных сялян.

Інакш спраўлялі дажынкі вясковыя багацеі, у якіх было вялікае жніво. Заклікалі яны на працу іншых вяскоўцаў. На дажынкі прыходзілі толькі за пачастунак. Пасля перапёлкі людзі, спяваючы, ішлі ў хату гаспадара. Там часта чакаў іх не толькі пачастунак, выпіўка але і музыканты. Пры спевах і танцах жнеі гулялі да позняй ночы. Людзі рэдка дапамагалі, калі не было пачастунку з гарэлкай. Тым, якія не мелі за што ўгасціць жнеяў, дапамагалі толькі добрыя суседзі, сваякі.

Збожжа ставілі па-рознаму. Жыта па дзевяць снапоў, а трыма накрывалі. Гэта былі т.зв. *ляшкі*. Калі накрывалі „дзевятку" адным снапом, тады была гэта *шапка* або *дзесятка*. Авёс, ячмень ставілі ў пяць снапоў, шостым накрывалі. Гэта была *каза* Так прыблізна выглядалі даўней дажынкі. Некаторыя са згаданых абрадаў яшчэ захаваліся.

Цікава, што нашы продкі заўсёды памяталі пра выпіўку. Вось для прыкладу і іншыя абрады, акропленыя гарэлкай. Пабудову дома ці нейкай будоўлі пачыналі пачастункам, які называлі *закладзіны*. Завяршалі таксама выпіўкай, *вянковым*. Пры пакупках або продажы пілі *літкуп* або *барыш*. Часта так напіваліся, што ўсё прапівалі і дахаты вярталіся без грошай і тавару. Варта задумацца, чаму якраз у такі, а не іншы спосаб нашы продкі перажывалі радасныя хвіліны. Пасля піцця часта былі клопаты з памяццю і здароўем.

**Аня Крышпінюк,**
**Аня Дзмітрук,**
**VIII клас ПШ у Храбалах**
*(дзяўчаты родам з вёскі Кнаразы, што на Бельшчыне)*

* * *

*„Лепш не сябраваць з гарэлкай".*
Малюнак Лукаша Жукоўскага з Орлі (VII клас).



# Дзедава рукавічына

Жыў дзед з бабай. Паехаў дзед у лес і згубіў рукавічынку. Скача лягушка. Прыскакала к рукавічынцы і пытаецца:

— Хто ў гэтай рукавічынцы жыве?

Ніхто не адгукаецца. Яна палезла ў рукавічыну і стала жыць. Трохі спагадзя паўзе рак. Прыпоўз к рукавічыне і пытаецца:

— Хто тут у гэтай рукавічыне жыве?

А лягушка гаворыць:

— Сама паня-пацягуня. А ты хто?

— А я рак-тарабун! Ці можна мне?

— Лезь!

Трохі спагадзя бяжыць зайчык. Прыбег к рукавічынцы і пытаецца:

— Хто ў гэтай рукавічынцы?

— Сама паня-пацягуня і рак-тарабун. А ты хто?

— А я па бярэзнічку прыгун. Ну і я палезу к вам.

— Лезь!

Трохі спагадзя бяжыць лісіца.

— Хто ў гэтай рукавічынцы?

— Сама паня-пацягуня, рак-тарабун, па бярэзнічку прыгун. А ты хто?

— А я лісіца — добрая маладзіца. Палезу і я к вам.

— Лезь!

Лісіца ўлезла і сядзяць. Трохі спагадзя ідзе воўк.

— Хто ў гэтай рукавічыне жыве?

— Сама паня-пацягуня, рак-тарабун, па бярэзнічку прыгун і лісіца — добрая маладзіца. А ты хто?

— Я з-за куста хапун. І я палезу к вам.

— Ну, лезь!

Улез і воўк. Трохі спагадзя ідзе мядзведзь. Прыйшоў к рукавічыне і пытаецца:

— Хто ў гэтай рукавічыне жыве?

— Сама паня-пацягуня і рак-тарабун, і па бярэзнічку прыгун, і лісіца — добрая маладзіца, і з-за куста хапун. А ты хто?

— А я зверху паціскун. Пусціце мяне к сабе!

— Не, у нас няма дзе.

— Ну, я зверху сяду!

Узлез наверх, як цісkануў — і паціснуў усіх на праснак. Злез з рукавіцы, падняў беражок рукавічыны, паглядзеў — аж усе паціснуты...

# Юныя мастакі

Іх малюнкі друкуем у „Зорцы". Стаяць (злева): Пятрусь Дземянюк, Паўлік Кубаеўскі, Агнешка Качаноўская, Аня Саеўская; сядзяць (злева): Каміля Лабузінская, Ася Тамашук, Юліта Гаўрылюк, Цалінка Глагоўская, Мажэна Жменька і Лукаш Жукоўскі (усярэдзіне).



Фота Ганны Кандрацюк

# Атрасіны ў Нарве

29 кастрычніка г.г. у Нарве адбыліся „атрасіны" чацвёртакласнікаў. Яны былі героямі дня. Іх пераапранулі за коцікаў. Мае сябры васьмікласнікі прыкідваліся старымі катамі. Мы размалявалі твары коцікам, прыладзілі вушы. Парадку пільнавалі каралева Кошка і кароль Кот. Яны загадвалі коцікам піць малако з місачкі і бутэлькі для немаўлят. Бялейшым катам далі „мікстуру на ўзмацненне". Была гэта гарчыца (муштарда), таматны соус (кечап) і маянэз. Найтаўсцейшыя коцікі займаліся гімнастыкай, пераходзілі праз тычку, гулялі ў мяч, які трэба было адбіваць галавой. Нашы чацвёртакласнікі дужаліся, перацягваючы ліну.

Нашы выхавацелькі таксама мелі занятак. Малявалі яны катоў з закрытымі вачыма, рашалі задачы. Гэта былі настаўніцы В. Назарук і В. Цімафяюк. Усе добра гулялі.

Пад канец чацвёртыя класы давалі прысягу. Кароль Кот уручыў усім дыпломы. Пазней была дыскатэка. Гэтыя „атрасіны" мы доўга не забудзем!

**Аня Садоўская**
**ПШ у Нарве, VIII клас**

# Грыбы

Калі мы пойдзем у каляровы лес,
Там пабачым шмат людзей.
За кустом пад дрэвам — грыбы збіраюць
Ці ядомыя, ці атрутныя?
Яны добра выбіраюць.
Назбіраўшы грыбоў цэлы кошык,
У ім пабачым „зялёных мошак",
Пойдзем да хаты з усмешкай на твары,
Бо маці ў хаце грыбны абед зварыць.

**Адам Грынявіцкі**
**VI клас ПШ у Нарве**

**Калі ўдасца ўтрымаць калектыў, дык трэцяя зіма ўжо будзе, гаворыць Ніна Філіпюк з Паўлаў.**

# ...Яшчэ няма снегу

Дайшлі да нас чуткі, што нешта не клеіцца ў апошні час у паўлаўскім спявачым калектыве. І я еду ў Паўлы.

А там ужо Ніна Філіпюк два разы заглядала да Мікалая і Веры Харытанюкоў, у якіх мы мелі спаткацца. Ніна Філіпюк — гэта тая спявачка, што найлепш, чысценька гаворыць на беларускай літаратурнай мове. Дзіва! Калісь то ў Паўлах была васьмігодка, дзе ўсе дзеці вывучалі сваю мову, бо быў гэта абавязковы прадмет. Не так, як цяпер у Рыбалах: хочаш — вывучай, хочаш — гуляй сабе ў той час. Ніна Філіпюк у калектыве — „перапісчык". Яна вядзе сшытак, у які старанна перапісвае ўсе песні, якія жанчыны спяваюць на конкурсах беларускай, каляднай і сакральнай песні.

Няма цяпер у Паўлах ані школы, ані настаўнікаў. Няма каму апекавацца нядаўна створаным калектывам. Ніна Філіпюк — гэта ў нас такі мастацкі кіраўнік, гаворыць Вера Харытанюк, а Ніна толькі скромна аднекваецца.

Калісьці вёску Паўлы расславіў тэатральны калектыў, што ўзнік у 1955 годзе, раней за Беларускае таварыства. Памятаю дасканалую самадзейную артыстку і адначасова кіраўніка гэтага калектыву Валянціну Мароз. Як яна іграла! Якія амбітныя п'есы ставілі яны!

Добра было, кажуць жанчыны, калі працаваў з намі Янка Мордань. Ездзілі са сваімі п'есамі па бліжэйшых гарадах і вёсках, і нават выступалі за граніцай — у Іўі. Калі Янка Мордань перастаў апекавацца славутым ужо паўлаўскім калектывам, ён фактычна перастаў дзейнічаць. Было гэта ў восемдзесят восьмым годзе.

А ў канцы дзевяноста чацвёртага жанчыны з Паўлаў падумалі: ці ж мы горшыя?! І ў царкве ж заўсёды спявалі, і калядавалі. Што, мы не можам выступіць на нейкім конкурсе, як іншыя?!

Як пастанавілі — так і сталася. І выступілі ў Заблудаве на аглядзе сакральнай музыкі. А пасля ў Драгічыне, на аглядзе калядных калектываў, з ходу занялі першае месца і былі накіраваны на міжваяводскі агляд у Шэпятова. Там таксама занялі першае месца і ў падарунку кожная спявачка атрымала кніжку „Польская рэгіянальная кухня". Выступалі таксама і ў Міхалове на аглядзе калянднікаў і два разы спявалі на фестывалі беларускай песні ў Беластоку. У мінулым годзе атрымалі там узнагароду ў катэгорыі фальклорнай песні. А яшчэ выступілі летам мінулага года ў амфітэатры на свяце беларускай песні. А вось зусім нядаўна выступілі — ужо трэці раз — на конкурсе ў Заблудаве. І так ужо сталіся сапраўдным калектывам. Усе дыпломы вісяць у святліцы, побач з тымі, што атрымліваў тэатральны калектыў.

Але цяпер жанчыны вагаюцца: ехаць ці не ехаць на раённы агляд калядных калектываў, які мае адбыцца 19 студзеня ў Гайнаўцы. У калектыве пануе нейкае знеахвочанне. Ніяк не могуць яны сабрацца, хаця, як перад паездкай у Заблудаў у кастрычніку рыхтаваліся, дык тыдзень часу хадзілі ў клуб „вечар у вечар".

**... Яшчэ няма снегу**, тлумачыць мне Ніна Філіпюк. То што ж, што ў полі чыста і бульба выбрана?! Яшчэ кароў у поле ганяем, яшчэ начуюць яны ў полі. Як будзе снег, тады ўжо пойдзем у клуб, хаця... найстарэйшая з нас — Анна Раманюк, якой ужо за семдзесят — штораз у клуб заглядае. Штосьці злажыла — і бяжыць да Ліды Андраюк, нашай клубовай. Сама касету прынясе, зараз жа найграюць тую песню на касету.

Вядома, чалавек старэйшы. А тут работы ў баб поўна ў хаце, пры дзецях. Старэйшага чалавека ашчаджаюць, дык ён больш часу мае для сябе. Але Анна Раманюк мае страшэнную ахвоту пісаць. Яшчэ яе сяброўка Марыя Іванюк (старэйшая, бо ёсць у калектыве яшчэ і Марыя Іванюк — малодшая) таксама любіць паспяваць.

Вось і цяпер: не ўсе хочуць ехаць у Гайнаўку, але Анна Раманюк — найбольш ахвотная. А калі б паехала яна, дык паедзе і сяброўка. Паедзе і Надзя Раманюк, і Марыя Харытанюк, але нешта яна хварэе. Ну, а з Верай і Мікалаем Харытанюкамі няма ніякіх праблем — яны заўсёды паедуць. А вось Марыя Іванюк-маладая, як мы кажам, яна цяпер у жалобе, у яе памерла сястра. І ў Ліды Андраюк памёр цесць. Таму і цяжка нам сабрацца цяпер усім. Летам дык мы не збіраемся. Работы шмат! Калі ўдасца ўтрымаць калектыў, дык трэцяя зіма ўжо будзе.

Добра было б, каб нехта падтрымаў тую кволую надзею Ніны Філіпюк канкрэтнай дапамогай. Людзі любяць, калі да іх на вёску прыедзе музычны інструктар, які падкажа і навучыць, як лепш; калі хтосьці „зверху" зацікавіцца імі ў будні дзень, а не толькі тады, калі прадбачваецца нейкі конкурс, і любяць, калі ад часу да часу напішаш пра іх.

Калектыў забліснуў неспадзявана, як метэор, але нельга нам дапусціць да таго, каб таксама хутка ён і згас.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*



*Сяброўкі з паўлаўскага калектыву: Ніна Філіпюк (злева) і Вера Харытанюк.*

# Канцэрт міласэрнасці

**— Найважнейшае, што людзі зразумелі і падтрымалі нашу задуму, — сказаў айцец Рыгор Місіюк, настаяцель Свята-Юр'еўскай царквы ў Беластоку. — Мы не думалі, што людзі аж так прыхільна ўключацца ў гэтую справу.**

Вечарам, 24 лістапада ў беластоцкай філармоніі адбыўся дабрачынны канцэрт. У забітай да апошняга месца зале (400 месц) прысутнічалі ахвяравальнікі, госці і таксама дзеткі з Супрасльскага і Беластоцкага дзіцячых дамоў. Арганізатары, Праваслаўны цэнтр міласэрнасці, якім зараз кіруе Марк Масальскі, падумаў не толькі пра дабрачынную справу але і пра эстэтычную асалоду сваім дабрачынцам. У першай частцы канцэрта выступілі: Дзіцячы Кафедральны хор Свята-Мікалаеўскага сабора пад кіраўніцтвам матушкі Алы Дубец, Маладзёжны кафедральны хор Свята-Мікалаеўскага сабора пад кіраўніцтвам дыякана Аляксандра Лысынкевіча і Епархіяльны хор пад дырыжорствам а.Васіля Дубеца, якога ў гэты вечар замяшчала матушка Ала Дубец.

У другой, свецкай ужо, частцы, прэзентаваліся бельскія „Журавінкі" (на здымку), „Каласкі" з Беластока і „Маланка" з Бельскага дома культуры. Канцэрт вялі айцец Рыгор Місіюк і матушка Ала Дубец. Усебаковае, задушэўнае заангажаванне матушкі Алы выклікае словы найбольшага павbooжання і захаплення. Дзякуючы яе працы, беластоцкія дзеткі маюць магчымасць культываваць праваслаўныя і беларускія традыцыі. Такія ж словы належацца і дырэктару Бельскага дома культуры Сяргею Лукашуку. Ён жа стваральнік блiскучых беларускіх калектываў, дзіцячых „Журавінак" і непараўнанай „Маланкі". Дарэчы, публіка вельмі горача ўспрымала выступленні згаданых хораў і калектываў. Арганізатары ўмела спалучылі жанры царкоўнай і свецкай творчасці.

На заканчэнне канцэрта ўсе слухачы, разам з „Маланкай" і „Каласкамі" гучна праспявалі тры беларускія народныя песні „Цячэ вада ў ярок", „Колькі ў небе зор", „Раняю парою". Варта было ўключыцца ў гэтую дабрачынную справу.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



# Дзве выстаўкі

У **Гайнаўцы** стала працаваць Галерэя „БМ". Гэта абрэвіятура Беларускага музея, у якім размясцілася галерэя. 20 лістапада ў яе памяшканні была адкрыта першая выстаўка. Свае працы прэзентуюць тры гайнаўскія мастакі: Яўген Давідзюк (пейзажы — акварэлі), Віктар Кабац (цыкл „Белавежскія сосны" — алей, пастэль, туш) і Яраслаў Пэршка (барэльефы ў метале). Усе яны — выпускнікі мастацкага аддзялення Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні.

Галерэя, у задуме, мае служыць творцам, звязаным з Беласточчынай, якія ў сваіх работах паказваюць клімат гэтай зямлі — свайго роду „беларускія пейзажы". Пакуль што размясцілася яна ў невялікім памяшканні музейнай бібліятэкі, але ў будучыні перабярэцца ў большую залу.

Для Галерэі „БМ" у Гайнаўцы, дзе цікавае мастацкае асяроддзе, няма сёння канкурэнцыі.

У **Бельску**, у Гарадскім музеі (ратуша) адкрылася выстаўка фатаграфій Юркі Асенніка. Большасць здымкаў можна было ўжо пабачыць у Беластоку, вясною ва універсітэцкай галерэі „Stotrzynaście", а менавіта — вокны ўсходняй Беласточчыны. У Бельску з'явіліся новыя фатаграфіі,робленыя ў час замежных падарожжаў, новыя архітэктурныя элементы (страха), а таксама плакат фестывалю „Бардаўская восень". Галоўная, аднак, тэма гэтай невялікай выстаўкі (дзевятнаццаць работ) — „спецыфічна лакальныя", як напісаў у каталогу Анджэй Кісялеўскі, тутэйшыя вокны. „Іх лакальны характар у колеры, форме, у архітэктурным кантэксце, якога яны элемент, — чытаем у каталогу. — З'яўляюцца яны фрагментам не гарадской, а вясковай архітэктуры".

Выстаўку можна глядзець да канца снежня.

**(ак)**

# У Кожыне будзе дом для састарэлых

**Вёска Кожына належыць Кленіцкаму прыходу і пра новую сітуацыю будынка па былой кожынскай школе (пра які было ў 16 (1979) н-ры „Нівы" ад 17 красавіка 1994 г. ) падаўся я даведацца ў Кленікі, да тамашняга настаяцеля а. Аляксандра Высоцкага. Святар рыхтаваўся да пераносін плябаніі ў новы будынак і акурат чакаў нейкага майстра, які меў закончыць неабходныя для пераносін працы. Майстар не спяшаўся і ў а. Аляксандра воляй-няволяй атрымаўся час на недамоўленую сустрэчу са мною.**

На пытанне, як гэта сталася, што даўняя школа, пазнейшая турма, апынулася ва ўладанні Кленіцкага прыхода, айцец Высоцкі расказаў:

— Задума гэтая ўзнікла ў Праваслаўным брацтве ў Беластоку. Напачатак братчыкі думалі арганізаваць там свой прытулак для састарэлых, паколькі аднак Брацтва не з'яўляецца юрыдычным суб'ектам, не маглі гэтага зрабіць. I тады беластоцкім выхадцам з нашага прыхода прыйшла думка, каб мы ўзяліся за гэту справу. I мне гэтая ідэя адпавядала, бо я таксама думаў аб нейкай дабрачыннай установе. Справа ў тым, што калі выйшаў закон аб вяртанні Царкве царкоўнай маёмасці, удалося мне, апрача, напрыклад, могілак, якія былі камунальнай уласнасцю, вярнуць яшчэ 30 гектараў зямельных угоддзяў. Цяпер маем 45 гектараў; мне самому яны непатрэбны і я спачатку хацеў, каб зямля тая давала нейкі прыбытак для дабратворнай дзейнасці, думаў пра сірацінец. Але калі афармляў справы ў гайнаўскай геадэзіі, падказалі мне там, што з сірацінцам многа праблемаў, і параілі мне дом для састарэлых. Такім чынам мае і Брацтва задумы сышліся. У Кожыне пуставаў былы школьны будынак і я пачаў захады, каб перавесці яго ва ўладанне прыхода. Падаў я дакументы ў Бельскую гміну і тры месяцы пасля, у канцы лістапада мінулага года бельская Гмінная рада дала згоду. На сесію прыехаў ад Брацтва з Беластока д-р Зенюк, каб падтрымаць наша хадайніцтва. Пляц мы атрымалі на *wieczystą dzierżawę*, а будынкі купілі; 13-га сакавіка быў гатовы натарыяльны акт. Працягам лета цягнулася бюракратычная валакіта: звярнуліся мы за выдачай варункаў забудовы дзялянкі. Умовы гэтыя аказаліся быць некарыснымі, бо Кожына называлася запаведнай вёскай. Тады мы да Рэстаўратара запаведнікаў, а там Кожына няма ў рэгістры запаведнікаў ды і школа — „тысячагодка" — таксама не „забытак". I нанава варункі забудовы... А тут яшчэ ж і дамовы з электрастанцыяй, камунальнай гаспадаркай (сцёкі), *санэпідам*, ГСам — мяжуем з крамай з алкагольнымі вырабамі. Спадзяёмся, што ГС не ўвядзе сюды гарэлкі — тут пакуль што толькі піва, а крама будзе патрэбная нашым падапечным.


*Ужо збіраюцца будаўнічыя матэрыялы.*


*Турэмныя аб'екты чакаюць адаптацыі пад новае прызначэнне.*

Купілі ўжо 3 тысячы сіпарэксавых пустакоў, цэглу, вапну, разабралі загараду з калючага дроту. Бярэмся за перабудову ўнутраных сценак, запланавалі новыя лесвічныя вертыкалі, месца на пад'ёмны кран, пад'езды для інвалідаў, сціральню, кацельню — у новай паставім маславыя печы, а старая прыме ролю аварыйнай. Нядаўна, 18 лістапада, перарэгістравалі тэлефон. А яшчэ новыя лічыльнікі электраэнергіі, бо як клалі водаправод, парвалі кабелі.

Напачатку здавалася нам, што будынак здамо ў карыстанне да канца будучага года. Але калі пабачылі, што будынак зруйнаваны, павыбіваны вокны, краны, радыятары, лямпы... Аднаго толькі шкла вывезлі некалькі фурманак. Трэба было таксама забяспечыць дах, каб не працякаў, бо ў адным месцы скляпенне перагніло. Прыйдзецца мяняць падлогі, выкідаць браніраваныя дзверы. Будынак аднапавярховы і трэба дабудаваць яшчэ адзін паверх, каб памясціць 70 чалавек у двухмесных пакойчыках з умывальняй у кожным. Пазней хочам дабудаваць крыло, каб усяго было на сто чалавек. З пачаткам новага года хочам стварыць сваю рамонтна-будаўнічую брыгаду, каб, калі добра пойдзе, здаць аб'ект у карыстанне за паўтара года.

Комплекс будзе складацца з трох будынкаў: А — былая школа, В — будынак сацыяльнага забеспячэння былой турмы і С — новая дабудова. На адаптацыю будынкаў трэба 1 мільён злотаў. Плануем заснаваць фонд, шукаем спонсараў. Памагаюць нам паслы СЛД Станіслаў Малішэўскі і Сяргей Плева; Управа Рады Міністраў прызнала нам у гэтым годзе 50 тыс. з Касцельнага фонду. Атрымоўваем таксама падтрымку з гмінаў: з Дубіч-Царкоўных 500 злотаў і з Чыжоў — 1 тысячу. Былі індывідуальныя ахвяраванні. 1 200 злотаў атрымалі з прыходаў; наогул з тых бяднейшых: з бельскага Уваскрэсенскага, Плёскаўскага, Мельніцкага. З Гайнаўскага атрымалі 500 злотаў, а з суседняга, Нарваўскага — 30 (!).

Царква вядзе адзін дом для састарэлых, але ён пад Варшавай, у Станіслававе, і наўрад ці там ёсць хаця адзін праваслаўны. Хочам стварыць такі дом, дзе можна будзе пагаварыць па-свойму і дзе такая сітуацыя не будзе выклікаць канфліктаў, як у Бранску ці Чараўках. Плануем, што ў нашым доме будуць працаваць нашы манашкі. Мясцовыя людзі вельмі цёпла ўспрымаюць наш план: будзе тут часоўня і калі яшчэ сярод жыхароў дома апынецца бацюшка, то і служба будзе адпраўляцца штодзённа. Выхадцы з нашай Беласточчыны, якія жывуць у польскім асяроддзі — у Сувалках, Вроцлаве, Хожаве — прысылаюць мне лісты з запытаннямі пра гэты дом; пішуць, што свае косці хочуць скласці ў роднай зямельцы.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**
*Фота Міколы ВАЎРАНЮКА*

# Для дзяцей Сербіі

Дабрачынны канцэрт у карысць дзяцей Сербіі адбыўся 3 лістапада ў Беластоцкай філармоніі. Выступіў Ансамбль царкоўнай музыкі Варшаўскай камернай оперы, мастацкім кіраўніком і дырыжорам якога з'яўляецца айцец Юрый Шурбак.

Як вядома, а. Юрый Шурбак нарадзіўся ў Бельску-Падляшскім і тут жа, на Бельшчыне, ставіў свае першыя крокі пасля заканчэння Духоўнай семінарыі і Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве.

Ужо будучы студэнтам (ад 1962 года) ён вёў семінарска-акадэмічны хор. Да музыкі ж меў ён вялікае замілаванне і нават збіраўся раней паступаць у кансерваторыю. Іграў на скрыпцы і меў прыгожы голас. Каліcь пачуў яго ўладыка Васілій у Міхайлаўскай царкве ў Бельску, у якой Юрый Шурбак спяваў ад 9 класа. Якраз у той час сказалі яму прачытаць „Апостала". Пасля службы ўладыка Васілій запрапанаваў яму паступіць у Духоўную семінарыю і Тэалагічную акадэмію ў Варшаве.

Калі Юрый Шурбак закончыў акадэмію, дык вёў на працягу 1965—1968 гадоў беларускі хор у Бельску (тады яшчэ ён называўся не „Васілёчкі", а проста хор БГКТ). У 1967—68 гадах кіраваў таксама эстрадным калектывам „Лявоніха", шырока вядомым на Беласточчыне. Ужо рукапаложаны ў сан свяшчэнніка, айцец Юрый Шурбак працаваў у царкве святога Іаана на Волі ў Варшаве, дзе быў вікарыем і рэгентам. А ў лютым 1972 года адбыліся першыя канцэрты створанага ім Ансамбля царкоўнай музыкі Варшаўскай камернай оперы. За гэтыя гады ансамбль даў каля тысячы канцэртаў у Польшчы і за мяжой. З'яўляецца ён аздобай фестываляў царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Запісана таксама шмат доўгаіграючых пласцінак з песнямі ў выкананні ансамбля.

...Слухаем, як спявае хор а. Юрыя Шурбака, і здаецца табе, што стварыла гэту музыку не дваццаць мужчынскіх галасоў, а магутны аркестр з дзесяткаў інструментаў. I знаёмыя гукі „Багародзіцы", песень-малітваў „Ойча наш", „Вечная памяць", „Госпадзі, памілуй", вядомай песні „Коль славен наш Господь", паходзячай з пецярбургскай школы кампазітараў царкоўнай музыкі, якая спяваецца на многіх мовах свету, ды іншых нясуць нас увысь, да вечнага і добрага.

У другой частцы канцэрта са сцэны філармоніі плывуць вядомыя рускія народныя песні: „Вечерний звон", „Вот полк пошёл", „Как пойду я на быструю реку", „Степь да степь кругом", „Метелица", „Стенька Разин", „Однозвучно гремит колокольчик". Блізкія і зразумелыя гэтыя песні нашым людзям. Многія з іх з'яўляюцца неадлучным элементам тутэйшых застолляў.

Спяваюць салісты і дуэты, а сярод іх — беластачанін Павел Лаўрашук, які спяваў пры саборы св. Мікалая і браў удзел у конкурсах беларускай песні, а сёлета паступіў у Варшаўскую кансерваторыю, Мацей Цагельскі — хормайстар і дырыжор „Мазоўша", Францішак Пшэмяноўскі, Францішак Урбанчык і іншыя.

А зала рэагуе гарачымі апладысментамі, аддаючы даніну свайму, праваслаўнаму, і адначасова пацярпеўшым ад вайны дзецям Сербіі.

I так Беластоцкая філармонія ператварылася ў гэты дзень у нашу „малую айчыну", у выспу праваслаўя. Не знаючы гэта, вядома, што не было там аматараў царкоўнай музыкі, якія былі іншага веравызнання.

**Ада ЧАЧУГА**
*Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА*


*Выступае Ансамбль царкоўнай музыкі пад кіраўніцтвам а. Юрыя Шурбака.*

# Леўка

На калёніі вёскі Рутка Дубіцкай гміны, на водшыбе, жыве цікавы і добры чалавек — Мікалай Бахмат. Часта наведваю я яго. Яму ўжо 93 гады, але памяць ягоная ясная. Расказчык з яго выдатны і многа чаго можна даведацца пра яго багатае жыццё. Аднойчы выняў ён з сундука дзве старыя фатаграфіі і паказаў іх мне. На адным здымку, з царскага яшчэ часу, малады, стройны і прыгожы мужчына ў афіцэрскай форме. Гэта Леўка, удзельнік першай сусветнай вайны, жыхар вёскі Рутка, мой цесць, патлумачыў дзядзька Мікалай. На другім здымку — жонка Леўкі Малашка з вёскі Мытлашы, стройная і прыгожая жанчына. Паслухай Коля, кажа мне дзядзька Мікалай, пра жыццё гэтых прыгожых людзей. Гэта цікавае апавяданне і хачу я пераказаць чытачам „Нівы", хаця яго галоўны герой адмоўнага характару; такія, аднак, людзі жылі, жывуць і далей будуць жыць, бо так ужо заведзена на зямлі, што і жулікаў не бракуе.

Калі Леўка Алесюк вярнуўся з Расеі з вайны, кінуўся ў вір жыцця. Нядрэнна пабудаваўся, зямлі добрай меў многа і гаспадаркі свае напачатку даглядаў як трэба. Скора ажаніўся з прыгожай дзяўчынай Малашкай і дзеці пачалі ў іх сыпацца адно за другім: адзін хлопец і сямёра дзяўчынак: адна з якіх у 4-5 гадоў памерла; асталося, значыць, сямёра. Раслі як на драждажах, усе прыгожыя і мілыя. Леўка мала імі клапаціўся, бо распіўся, і ўсе грошы, якія толькі ў яго заводзіліся, прапіваў з сябрукамі, якіх меў нямала. Быў ён здаровы з выгляду, дык і *гары* патрабаваў байкавата. Жонка цярпела ўсё гэта і даглядала дзетак, якія нават зімою не мелі ў што апранущца і бегалі басанож па двары. Сам Леўка — чалавек з адукацыяй, выпускнік гімназіі — ні аднаго са сваіх дзяцей не навучыў нават элементарнай грамаце. Гуляў. Да палявых работ заўсёды наймаў рабочых, а паколькі шчодры быў з абедам і харчамі, ахвотных да працы ў яго не бракавала. Пасля малацьбы мяшкі з жытам, пшаніцай ці аўсом грузіў на фуру і гнаў коніка на рынак у Кляшчэлі ці Бельск, або нейкаму жыду прадаваў і цэлы тыдзень не было яго дома, пакуль не вяртаўся „гол як сакол". Дзеці, на шчасце, перамагалі неяк свой цяжкі лёс і раслі здаровыя. Дачку Маньку выдалі за мясцовага стройнага хлопца Мікалая Бахмата, які славіўся майстрам на ўсе рукі. Пара была прыгожая і нават сам Леўка быў задаволены такім зяцем. Не перастаў ён, аднак, буяніць і сэрца Малашкі не вытрымала і памерла яна маючы мо толькі 35 гадоў; на яе месца Леўка ўзяў нейкую другую бабу. Зяць Мікалай, будучы чалавекам працавітым і сумленным, не мог пагадзіцца з дзівацтвамі і п'янствам цесця і некалькі разоў яго аддубасіў. Леўка не адбіваўся, прызнаваў, відаць, зяцю рацыю, аднак надалей рабіў сваё. Мікалай з Манькай скора аддзяліліся і сталі жыць самастойна; неўзабаве таксама і другія дочкі павыходзілі замуж, а сын Васіль ажаніўся.

Збожжа, як вядома, адзін раз у год родзіць, і Леўку не заўсёды хапала грошай. У суседняй вёсцы жыў яго пляменнік Піліп, якому падыходзіла прызыўная пара. І вось аднойчы Леўка сказаў Піліпу, што можа вызучыць яго ад войска, бо мае вялікія знаёмствы; трэба адно, каб Піліп прадаў вала і даў Леўку грошы. Паслухаў пляменнік дзядзьку, прадаў вала, і Леўка з грашыма накіраваўся вызучаць яго ад войска аж у Беласток. Цэлы тыдзень „афармляў справы" і калі вярнуўся дамоў, Піліп не меў ніякіх сумненняў, што ў армію не пойдзе, бо дзядзька — чалавек граматны і на ўсе бакі біты; да таго ж блізкі сваяк і даў „чэснае слова". Праз месяц пляменнік атрымаў з Бельска павестку, каб явіцца на зборны пункт... У вёсцы пасля смяяліся, што вол і Піліп адслужылі па два гады ў радах польскага войска.

Спатрэбілася Леўку на нешта (вядома на што) большая сума грошай і рашыў ён узяць пазыку ў бельскім банку. Нейкім цудам намовіў свайго сваяка Кандрата, каб паручыўся за яго. Той, на сваю бяду, паслухаў і скора на Кандратаў панадворак унадзіўся секвестратар і забіраў усё каштоўнейшае за Леўкаву пазыку, бо з Леўкавых голых сценаў не было чаго браць.

Кандрат меў сястру Філіну, якая вырашыла правучыць Леўку за прычыненыя яе брату крыўды. Нейкім прысвяткам схавала за пазуху цэглу, выйшла на вуліцу і стала чакаць. Неўзабаве паказаўся ён з нейкім сваім знаёмым. Калі параўналіся з Філінай, тая давай лаяць Леўку за тую пазыку, выхапіла цэглу і з цэлай сілы ўляпіла яму ёю па губе, ажно юшка з носа пацякла. Ён кінуўся біцца, але людзі збегліся і іх раздзялілі.

У 1937—38 гг. у Рутцы пачалі праводзіць камасацыю зямлі. Такая падзея выклікае ў людзей шмат хваляванняў. Пакарыстаўся гэтым Леўка, абяцаючы дзе-каму, што аформіць, каб усё было так як трэба, толькі, вядома, з голымі рукамі нічога не зробіцца. Ну і насілі яму сяляне: хто яйкі, хто мёд, хто грошы... І ён „залатвяў" — цэлы тыдзень сядзеў у рэстаранс ў Беластоку за гэтыя гасцінцы. А калі вярнуўся, гаварыў, што ўсё зроблена на іх карысць.

Банк у Бельску збіраўся паставіць на аўкцыён Леўкаву калёнію, бо Кандратавага дабра не хапала пагасіць спомненую раней пазыку. Да гэтага, аднак, не дайшло, бо ў 1939 годзе ўспыхнула вайна. Напярэдадні вайны Леўка прадаў свае будынкі і перабраўся жыць у Бельск. Калі прыйшлі бальшавікі, стаў настаўнічаць у некалькіх вёсках.

Пры нямецкай акупацыі аднной з яго дочак пагражаў вываз на прымусовыя работы ў Германію. Леўка святочна апрануўся, надзеў гальштук і капялюш і важна пакрочыў у бюро бельскага нямецкага камісара. Стаяла там чарга, людзі расступіліся і Леўка прама пайшоў у кабінет камісара. Там стаў тлумачыць мэту свайго візіту. Камісар слухаў яго, слухаў, а пасля як не ўлепіць кастылём з цэлае сілы па капелюшы наведвальніка. Капялюш паляцеў у адзін бок, а Леўка кулём выляцеў з кабінета, збіваючы пры нагодзе некалькіх чалавек з ног.

Пасля вайны працаваў ён настаўнікам у вёсцы Лянева аж да выхаду на пенсію. Тае пенсіі чамусьці спачатку яму не плацілі; з-за бюракратыі хіба. І памёр быў Леўка нечакана. Сталі з'язджацца сваякі, аж тут здарыўся цуд: Леўка ажыў — расплюшчыў вочы і напалохаў людзей, што збіраліся на паховіны. Быў гэта, бадай, прыступ клінічнай смерці, і таму ён „уваскрос".

Прайшоў нейкі час і атрымаў ён урэшце-такі сваю пенсію. Грошай было многа, бо пенсію прыслалі з кампенсацыяй. А на другі дзень Леўка памёр; гэтым разам ужо сапраўднай смерцю. Гаварылі, што калі ляжаў ён на покуце ў адным пакоі, у другім дочкі цэлую ноч сварыліся за гэтую пенсію, што пакойны атрымаў за ўсю сваю працу.

Было гэта даўно і травою зарасло, а факты сталі легендай.

**Мікалай Панфілюк**

# Юрлівы сусед

Усе ў вёсцы думалі, што сям'я П. шчаслівая. Караліна ніколі не скардзілася на мужа, Юлек ніколі не сказаў дрэннага слова на жонку. Усюды ў іх было акуратна. Іх дзеці вучыліся добра.

Па-суседску жыла ўдава з дачкою Касяй. Кася стала паўсіратою, калі ёй споўнілася сем гадоў. Бацька памёр на інфаркт пры сенаванні.

Свекры добра адносіліся да ўнучкі і яе маці, але суседзі ўсё гаварылі, што Крыся мела каханкаў і Вацэк памёр ад нерваў.

Кася была падобная з выгляду на Крысю і злыя суседкі ўсё гаварылі, што яна будзе такая як і маці.

Гэта была няпраўда, але ж нікому вуснаў не закрыеш. Спачатку Крыся з Касяй плакалі, а пасля прасілі Бога, каб даў сілу ўсё перанесці.

Кася не мела сябровак ды і ад сяброў нярэдка даставала выспятак. Школа, дапамога маці дома і на гаспадарцы, час ад часу магчымасць паглядзець фільм — гэта ўсе яе заняткі.

Калі дзяўчына закончыла пачатковую школу, памерлі дзяды: перад Вялікаднем бабуля, а пасля, праз тыдзень, дзед.

Кася хацела астацца дома, каб памагаць маці, аднак Крыся вырашыла інакш. Яна хацела, каб дачка вучылася далей, а пасля, калі дачка закончыць школу і атрымае працу, усё прадаць і перабрацца ў горад.

Кася вучылася ў медыцынскім ліцэі, далёка ад роднай вёскі, і таму дадому прыязджала толькі раз у месяц, ну і на канікулы.

Калі вучылася ў другім класе ліцэя, прыехала на зімовыя канікулы. Ад чыгуначнага прыпынку да роднай вёскі было чатыры кіламетры. Яна гэту дарогу заўсёды праходзіла пехатою. У гэты дзень, а быў ужо вечар, бо зімовыя дні кароткія, убачыла пры дарозе суседа Юлька. Не звярнула на яго ўвагі, але ён сам падышоў да яе.

— Добры вечар, Кася! Даўно цябе не бачыў; якая ты прыгожая, — пачаў гаварыць мужчына.

Дзяўчына маўчала, нейкі страх ахапіў яе. Мужчына далей гаварыў ёй розныя кампліменты.

Калі дайшлі да невялікага хвайнячку, што быў два кіламетры ад вёскі, тады Юлек сілай зацягнуў дзяўчыну пад хвойку і там згвалтаваў яе. Сказаў яшчэ, каб не паведамляла міліцыю, бо і так ёй не павераць: у вёсцы ўсе гавораць, што яна валочыцца ў горадзе з хлопцамі; асмешыцца толькі.

Кася расказала аб усім маці. Жанчыны паплакаліся, аднак нічога не маглі зрабіць, бо Юлек быў узорам для ўсіх мужчын, бадай на цэлую гміну. Аб іх жа гаварылі толькі дрэнна, хаця было гэта няпраўдай. Непакоіліся толькі, каб Кася не зацяжарыла. Па некалькі разоў у дзень маліліся. На шчасце дзяўчына не зацяжарыла.

З тае пары маці адводзіла дачку на прыпынак і туды ж хадзіла яе сустракаць.

Праз пяць месяцаў ад таго, нікому больш у вёсцы невядомага здарэння, недзе загінула Цэля, дачка настаўніцы і ветэрынара, якая вучылася ў педагагічным ліцэі.

Дзяўчына не паведаміла бацькоў аб сваім прыездзе; пра яе выезд да бацькоў ведалі толькі сяброўкі. Калі не было яе дзень-другі ў школе, падумалі, што пэўна май ударыў у галаву, але калі мінуў тыдзень, дырэктар рашыў напісаць бацькам ліст, у якім пацікавіўся чаму іх дачка не прыходзіць у школу. Калі яна прапускае ўрокі, пісаў, дык якая з яе будзе настаўніца.

Занепакоеныя бацькі паведамілі міліцыю. Міліцыянеры пачалі шукаць загінуўшую з сабакамі. Ім пашанцавала: пабітае цела знайшлі пад кучай галля, якое ляжала ў хвайняку.

Ніхто не ведаў, хто і за што забіў дзяўчыну. Толькі Крыся з Касяй дадумоўваліся, што гэта работа Юлька: Цэля напэўна не баялася абгавору і недаверу, а Юлек баяўся пакарання і таму закрыў ёй вусны назаўсёды. Баяліся яны аднак сказаць пра гэта міліцыі.

Час праходзіў хутка, і неўзабаве пачаліся канікулы. Моладзь прыехала ў вёску. Усе шкадавалі пакойнай ужо Цэлі і яе пакутуючых бацькоў. Брат Цэлі ўсё паўтараў, што калі б ведаў, хто забіў яго сястру, парубаў бы яго на кавалкі. Пасля канікул уся моладзь ізноў раз'ехалася па гарадах вучыцца. Прайшло два месяцы школьнага года, калі ў вёску рашылі прыехаць дзве дзяўчыны: Ліля і Агата. Калі дайшлі да хвайняку, убачылі там Юлька П.

— Ой, дзяўчаткі! — усклікнуў ён. — Якія вы прыгожыя. Дзе ж вы былі, калі я малады быў?!

Схапіў Лілю з намерам зацягнуць у хвайняк. Агата кінулася сяброўцы на дапамогу. Мужчына, аднак, быў мацнейшы за іх і пачаў душыць дзяўчат. Лілі ўдалося ўдарыць Юлька ў прамежак. Мужчына заенчыў і адпусціў дзяўчат.

Ліля з Агатай як мага хутчэй пабеглі ў вёску, дзе адразу і расказалі пра здарэнне з Юлькам.

Бацькі дзяўчат, так як стаялі, пабеглі ў хвайняк, каб адлупцаваць нахабніка. Знайшлі яго вісячага на сваім паяску на хвойцы.

Пасля смерці ягоная жонка выявіла, што ён быў добры толькі напаказ, а ў сапраўднасці да дзяцей і яе адносіўся дрэнна. З прычыны сваёй празмернай юрлівасці практыкаваў садомію.

**Аўрора**

# Позірк у мінулае

**8 снежня**

1638 г. — памёр Іван Гундуліч, харвацкі паэт.

1864 г. — нар. Каміль Кладэль, французская скульптарка.

1865 г. — нар. Ян Сібеліус, фінскі кампазітар.

**9 снежня**

1608 г. — нар. Джон Мільтан, англійскі паэт.

1641 г. — памёр Антоніс ван Дэйк, фламандскі мастак.

1891 г. — нар. паэт Максім Багдановіч.

1916 г. — нар. Кірк Дуглас, амерыканскі акцёр.

**10 снежня**

1898 г. — дагавор у Парыжы закончыў іспанска-амерыканскую вайну; Іспанія страціла на карысць ЗША Філіпіны, Пуэрта-Рыка і Гуам.

1902 г. — нар. Міхаіл Алпатаў, расейскі гісторык мастацтва.

1936 г. — памёр Луіджы Пірандэла, італьянскі паэт.

**11 снежня**

1791 г. — аўстрыйскі духоўны Ёзаф Мор напісаў каляду „Ціхая ноч".

1843 г. — нар. Роберт Кох, нямецкі бактэрыёлаг.

1856 г. — нар. Георгі Пляханаў, расейскі рэвалюцыянер.

1918 г. — нар. Аляксандр Салжаніцын, расейскі пісьменнік.

**12 снежня**

1586 г. — памёр Стэфан Баторый, польскі кароль.

1821 г. — нар. Гюстаў Флабер, французскі пісьменнік.

1824 г. — нар. Якаў Ігнатовіч, сербскі пісьменнік.

1863 г. — нар. Эдвард Мунх, нарвежскі мастак.

1904 г. — цар Мікалай II выдаў указ, які адмяняў абмежаванні ў карыстанні мясцовымі мовамі на захадзе Расейскай імперыі.

1907 г. — нар. Анатоль Шыбнеў, беларускі жывапісец.

1915 г. — нар. Франк Сінатра, амерыканскі акцёр.

1928 г. — нар. Чынгіс Айтматаў, кіргізскі пісьменнік.

**13 снежня**

1204 г. — памёр Майманід, яўрэйскі лекар і філосаф.

1466 г. — памёр Данатэла, італьянскі мастак.

1797 г. — нар. Генрых Гейнэ, нямецкі паэт.

1873 г. — нар. Валеры Брусаў, расейскі паэт.

1909 г. — памёр Інакенцій Аненскі, расейскі паэт.

1916 г. — лавіна ў Даламітах пахавала пад сабою каля 10 тыс. італьянскіх і аўстрыйскіх салдатаў.

1981 г. — у Польшчы ўведзена ваеннае становішча.

**14 снежня**

1799 г. — памёр Джордж Вашынгтон, першы прэзідэнт ЗША.

1900 г. — нямецкі фізік Макс Планк прадставіў у Берліне сваю квантавую тэорыю.

1911 г. — нарвежац Роалд Амундсен з чатырма спадарожнікамі першым дабраўся да Паўднёвага полюса Зямлі.

1939 г. — СССР выключаны з Лігі Нацый.

1989 г. — памёр Андрэй Сахараў, савецкі фізік і змагар за правы чалавека.

**(Ш)**

# Парнасік

## Восень — развітальная песня

Восень прынесла дажджы —
Доўгачаканыя Божыя дары;
Бо было вельмі суха,
Што чакалі нас бяда і пакуты.
Ды нечакана ўсё змянілася,
Каб душа наша з Богам памірылася.
Восень — наш асаблівы фінал,
Людскі пачын і *марал*.
Птушкі сваю дарогу знаюць
І ў выраў адлятаюць;
Іх далёкая Афрыка чакае,
Промнямі сонца і ласкай вітае.
Ды ў іх там гасціна, не дома,
Дзе ў нас лугі, духмяныя сена, салома...
Буслаў ужо не відаць
І клёкату іх не чуваць.
На небе далёкім яны — караблі,
Што, з ветрам ці супраць, дарогу
знайшлі.
Інстынкт не падвёў усіх крылатых —
Нашых сяброў інтэлектам багатых.
Жураўлі, гусі з крыкам ляцяць —
Развітальную калыханку хочуць нам
даць.

Ці мы гэта зразумеем?
А мо ўлавіць не паспеем...
Бо мы таксама ў выраў спяшым,
Ноччу і днём там ляцім.
Збіраем плён, зярно сеем,
І да зімы, дай Бог, паспеем.
І таксама будзем мы ў госцях,
Хаця холад будзе і ломка ў косцях;
Ды будзем грэцца ля печкі
Каля тэлевізара і свечкі.
Але, каб даць падзяку Богу,
Што вядзе нас слушнай дарогай...
Мы, толькі як трывога —
Тады ляцім да Бога!
Восенню дрэвы лунеюць
І лістоўе жаўцее;
Залаты яго адценак казачны —
На сэрца вельмі радасны —
На зямлю яно ападзе
І ніколі не прападзе.
Звяры гатовяцца да зімавання —
Гэта цяжкае выпрабаванне.
Тым, што ў нас засталіся
Трэба дапамагаць, каб не звяліся.
Восень — развітальная песня
На лугах, палях, водах і ў лесе.
Да сустрэчы вясной —
Цёплай і дарагой!

**Мікалай Панфілюк**

## Дзеткі

Ой, мае вы, дзеткі,
Што далей рабіць?
Цяжкавата ўжо мне
Па свеце хадзіць.
Каб зямлю дагледзець,
Пасеяць ды ўбраць,
Трэба мець здароўе
З усім тым ваявацъ.
Даволі дом падмесці
Ды ў двары прыбраць,
Затым сесці на лаўку
І ўнукаў чакаць.
А калі ўжо з'явяцца,
Падарак трэ даць,
Можа тады будуць
Часцей прыязджаць,
Каб дзеда наведаць
Ды сваю бабулю,
Спрабаваць каўбаскі,
Ўзяць моркву, цыбулю.
Вялікі вам дзякуй,
Што хоць не забылі
Наведаць тую хатку,
Дзе вас ахрысцілі,
Пабываць пад дахам,
Дзе вас гадавалі,
Дзе бабулька з дзедам
Бай-люлі спявалі.

**Мікалай Лук'янюк**

## Маланка

Здаецца толькі ўчора
чакалі мы прыходу
спозненай у гэтым
годзе радаснай вясны.
Ужо прайшло і лета.
Ападаюць з дрэваў лісты.
Адыходзіць ад нас восень
з крыкам птушак
ляцячых у выраў.
З павуціннем бабінага лета.
З апошнім апаўшым лістком.
Зараз усё пачарнее і парыжэе.
Толькі сосны і елкі будуць
далей зялёнымі стаяць.
Зіма снегам усё засыпле.
Зноў будзем чакаць вясны.

**Аўрора**

## Боль зубоў

У Валодзькі і Салагубы
Забалелі калісь зубы.
Адзін думаў памаліцца,
Але другі яму кажа:
„Дэнатуры лепш напіцца".
Мычаў Валодзька і бляяў,
Першы раз такое ўзяў.
Але, прабудзіўшыся ранкам,
Болю зубоў не адчуваў.
Іх метадам не раю карыстацца,
Лепш да стаматолага падацца.

**Мар'я Пень**

# Вер — не вер

Дарагі Астроне! Прыснілася мне, што выпаў у мяне пярэдні зуб (з левага боку). Маркотна мне стала: непрыгожа, дзірка спераду. Думаю, што трэба як мага хутчэй схадзіць да стаматолага, і хай мне нейк гэту дзірку залатае.

І ўяві сабе, Астроне, прыходжу я на работу, а адна з маіх супрацоўніц расказвае, што ёй снілася. Высветлілася, што сон зусім такі ж, як мой. Ды толькі вось у яе выпаў пярэдні зуб, правы.

Ці штосьці дрэннае нас чакае?

**Марыся**

Сніцца мне, быццам пляту я вянок з ружаў. Прыйшлі мае дзеці і знаёмая прыйшла, а таксама яшчэ пару суседзяў. А я думаю: каб хоць той вянок не разляцеўся! Што гэты сон можа абазначаць?

**Галіна**

Марыся! Калі сняцца белыя зубы — абазначае гэта здароўе ў цябе або ў некага, блізкага табе. Калі сняцца вялікія, брудныя, чорныя зубы — так і знай, што чакае цябе хвароба ці беднасць. А што ўжо гаварыць, калі выпаў зуб! Тады вядома, што нехта памрэ. Ты не пішаш, ці была пры гэтым кроў, але мяркую, што і ў тваім сне, і ў сяброўчыным крыві не было, бо ты б пра гэта напісала. Значыцца, не памрэ ў вас кроўны сваяк. Паколькі якраз так супала, што і табе, і тваёй сяброўцы з працы прыснілася адначасова падобнае, даводзіцца меркаваць, што можа гэта быць нехта з вашага бліжэйшага ці далейшага асяроддзя.

Галіна! Ты пляла вянок з ружаў — трэба было б спадзявацца вялікага поспеху ў тваіх справах. Але непакоюся, што ў гэтым табе могуць перашкодзіць нейкія людзі, бо і ты ж баялася, што вянок разваліцца, калі ў хаце паявілася многа людзей.

**Астрон**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 3. накрывае зямлю зімою, 8. Нурсултан Назарбаеў, 9. будова зямной паверхні, 10. рака на захадзе Польшчы, 11. жыхар Чэбаксараў, 13. грызун з каштоўным футрам, 15. дачка Прыяма, караля Троі, 16. атмасферная з'ява, якая робіць паветра непразрыстым, 20. той, хто мае некім стаць, 22. бязладдзе, неразбярыха, 23. малюнак з рэлігійным зместам, 27. частка жаночай вопраткі, 29. раздзел, раскол на часці, 30. продак шкарпэткі, 31. сход даўніх славян, 32. жанчына, якая доіць кароў, 33. астаецца пасля згарання, 34. яна яе мые.

**Вертыкальна:** 1. сталіца Мазамбіка, 2. калектыўная дапамога пры выкананні сельскіх работ, 4. павелічэнне напр. цаны, платы, 5. дваранскае званне ў Іспаніі, 6. кухонная печ з канфоркамі, 7. патомак белага і індзейкі, 12. пусты, нікчэмны чалавек, 14. урраднік у спадніцы, 16. пачуццё меры, прыстойнасць, 17. гукавы сродак выказвання думак, 18. цэнтр атама, 19. еўрапейскі вулкан, 21. маленькі акунь, 24. тэрытарыяльная адзінка ў Швейцарыі, 25. начны адпачынак, 26. цыганскі абоз, 27. напр. футбол, 28. вадкасць з наварам таго, што ў ёй варылася.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 42 н-ра:**

**Гарызантальна:** смала, бідэрмеер, вясло, Сопат, маг, сталіца, Амерыка, таз, нанду, акула, каларыфер, Сінай.

**Вертыкальна:** пагроза, сядло, апекс, бусельнік, рэпертуар, Вотан, такса, мат, газ, абарона, Уэльс, Арфей.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

Ніва

**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка




*Мал. Алега ПАПОВА*

## Пародыі

**Сустракаліся — цалаваліся**

*А калі цалаваць —*
*сінявокую,*
*шэравокую,*
*цёмнавокую,*
*нізкарослую*
*ці высокую,*
*чарнабровую*
*або русую —*
*белавежскую,*
*беларускую...*
*Вось якія хлапцы белавежскія!*

**Алесь БАРСКІ**

Я сам з белавежскіх хлапцоў —
Цалавацца са школы умею,
За гэта біў бацька дубцом,
Хоць душою мяне разумеў ён.
А я цалаваў сінявокую,
То рыжую, то брунетку,
Пасля цалаваў высокую,
Багатую нашу суседку.
Чарнабровую і русую,
Шэравокую, цёмнавокую,
Белавежскую, беларускую
Цалаваў я дзяўчыну далёкую.
Цалаваў я замужніх жанчын
І разведзеных цалаваў,
А пасля я пайшоў на спачын —
І старую зусім пакахаў:
Без зубоў, без грудзей, з кастылём,
І сівая, і ў акулярах...
Ды мы разам цяпер жывём,
А пра тых, маладых, толькі мару.

**Сяргей Чыгрын**

## Сапраўдны пісьменнік

Прыязджаючы ў Мінск са свайго Беластока, беларускі пісьменнік Сакрат Яновіч любіць зайсці ў кафэ Дома літаратара, каб з некім убачыцца, пагаманіць. На гэты раз ён апынуўся за сталом з незнаёмым мужчынам.

— Вы таксама пісьменнік? — пацікавіўся Сакрат.

— Да, — адказаў па-руску мужчына.

— Мяне цікавяць адносіны людзей, выхаваных савецкай уладай, да рэлігіі. Вы верыце ў Бога?

— Категорически нет, — быў адказ.

— А вы чыталі „Біблію"?

— Я писатель, а не читатель, — канчаткова дабіў Сакрата незнаёмец.

**Аляксей Гардзіцкі,**
*(Вакол Парнаса, „Полымя" № 5 /1996)*

## Сентэнцыі

Калі падэшвы сцёртыя, сядзі ў хаце.

* * *

І ў найчарнейшую ноч ёсць светлячок.

* * *

Не апускай рук у няшчасці — спапелішся.

* * *

Нітку пяткай у іголку не ўцягнеш.

* * *

Над прорвай і птушка перахрысціцца.

**Барыс Руско**

## Скажам праўду

Жанчына прыбягае ў камісарыят паліцыі:

— Згвалтавалі мяне трынаццаць мужчын!

— Супакойцеся, усіх іх пераловім!

— Мне не трэба ўсіх. Толькі трэцяга, восьмага і дванаццатага.

* * *

Графіня сядзіць на крэсле пад сцяной бальнай залы. Падыходзіць граф і кланяецца:

— Ці шаноўная захоча танцаваць наступны танец?

— Вядома, пан граф.

— Цудоўна, урэшце буду мець дзе пасядзець.

* * *

— Шкада, што ваш муж так хутка памёр...

— Але, тым больш, што лякарстваў засталося яшчэ на тры тыдні.

* * *

— Мааа-аааама, я пяць мух злапаў!!! Дзвюх самак і трох самцоў!!!

— А адкуль ты ведаеш, хто самка, а хто не?

— Адны сядзелі на люстэрку, другія — на бутэльцы з-пад піва.

* * *

— На гэтым здымку, дзе я голенькі, мне пяць годзікаў.

— Вы ўжо тады былі лысымі?..

— Вы ж здымак трымаеце дагары нагамі!

* * *

— Татка, мой нарачоны — цудоўны хлопец.

— А ці хоць ён дыскрэтны?..

— Яшчэ як! Мы тры тыдні былі разам пад палаткай, а яшчэ не ведаю яго імя...

**(лук)**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Англічанін, француз і беларус спрачаюцца якой нацыянальнасці быў Адам. Першы кажа:

— Быў англічанінам: толькі джэнтльмен можа падзяліцца з жанчынай адным яблыкам.

— Не, — кажа другі, — Адам быў французам: хто ж другі мог бы так доўга раскашавацца з адной жанчынай.

— О, не! — кажа трэці. — Адам быў беларусам: толькі беларус, ходзячы голым і меўшы толькі адзін яблык, мог уяўляць, што знаходзіцца ў Раі.

* * *

Ева паўстала з Адама, калі той спаў. Такім чынам яго першы сон быў яго ным апошнім адпачынкам.

* * *

У Раі.

Адам: Ці будзеш маёю?

Ева: Яшчэ надумаюся.

Адам: Дык пасняшайся, яшчэ маю некалькі рэбраў.

* * *

Пытанне да радыё Бі-бі-сі:

— Ці Ева здраджвала Адаму?

Адказ:

— Дакладна невядома. Дарвін, аднак, калісь сцвердзіў, што чалавек паходзіць ад малпы.

* * *

— Чаму Бог спярша стварыў мужчыну?

— Бо ведаў, што з жанчынамі лепей не пачынаць.

* * *

На ўроку рэлігіі:

— Скажы Грышка, чым зграшыў Адам у Раі?

— З'еў яблык з забароненага дрэва, які падала яму Ева.

— І як ён быў пакараны?

— Мусіў з ёю ажаніцца.

* * *

Негры гавораць, што спачатку ўсе людзі былі аднаго колеру. І настаў дзень, калі Бог спытаў Каіна:

— Што ты зрабіў са сваім братам Авелем?

І тады Каін пабляднеў ад страху.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Думаю цяпер: як жа гэта магло здарыцца... Насіў мяне даслоўна на руках. Абцалоўваў не толькі мае рукі, але і кожны пальчык ног. Гаварыў мне, што не сустрэў у жыцці такой прыгожай дзяўчыны. А я... быццам гуляла ім.

Калі нікога не было пад рукой, я праводзіла ўвесь час з ім, аддаючыся роскашы духа і цела. І тады мне здавалася, што я яго кахаю. Толькі яго. Наймацней, як магла. Праўду сказаўшы, мне было з ім добра, як рэдка з кім. О не! Не быў ён маім першым хлопцам, бо сексуальнае жыццё я распачала даволі рана, тады, калі мне было 16 гадоў.

Аднак жа, калі толькі на гарызонце паяўлялася нейкая новая постаць, я забывалася пра ўсё: пра сустрэчы з ім, пра пацалункі і пяшчоты. Нешта новае, невядомае прыцягвала мяне, быццам магнітам, клікала ў новы свет. Калі толькі новы хлопец мне падабаўся, дык я пачынала хадзіць каля яго, а першага тады як бы і не было. Тады ўжо мой хлопец не быў мне патрэбны, бо поўнасцю паглынаў мяне новы раман. Аднак жа, калі раман канчаўся (часцей ён працягваўся ўсяго некалькі дзён), я зноў вярталася да свайго, адзінага.

Як ён перажываў, я магу здагадвацца толькі цяпер. Аднойчы, калі я сядзела ў кавярні з новым знаёмым, мой хлопец высачыў мяне. А былі ж мы на самым канцы горада. Падышоў ён да нашага століка і кажа, увесь збялеўшы: „Можна цябе на хвілінку?!" Я неахвотна паднялася з месца і мы выйшлі. Як ён прасіў мяне тады, каб я не вярталася ў кавярню, а пайшла з ім. Ведаў, адчуваў, што можа здарыцца. Але я вярнулася да новага хлопца. Ён мне на гэты момант засланіў увесь свет. А мой хлопец далей сачыў, што будзе. І падглядзеў, што мы пайшлі да мяне дахаты (у мяне ўжо ёсць свая кватэра). Стукаў-калаціў у мае дзверы вечарам, але я не адчыніла. Відаць, чуў, што нехта ёсць у сярэдзіне, хаця я не запальвала святла, і вырашыў чакаць у калідоры. Познім вечарам, калі новы знаёмы выходзіў ад мяне, мой хлопец сядзеў на сходах. Сустрэліся, быў „мардабой".

Я думала, што пасля гэтага мой хлопец ізноў накінецца на мяне са сваім каханнем. А выйшла інакш, бо не адазваўся ні адзін, ні другі. Заглох мой тэлефон, ніхто не стукаў у дзверы. Неўзабаве (прайшло можа два тыдні) я даведалася, што мой хлопец выехаў з іншай дзяўчынай у горы на лыжы.

Я нікуды не выходзіла пасля працы. Хлопцаў навокал мяне было шмат, як і раней, але яны мяне толькі раздражнялі. Калісь пайшла я з адным на патанцоўку, дык нават не магла здабыцца на ўсмешку. А так жа ён мне раней падабаўся! Усе мае думкі былі накіраваны ў Закапанае, дзе мой хлопец быў з іншай.

Мой гонар не дазволіў мне прасіць у яго прабачэння. Я не пазваніла і не пайшла да яго. А сэрца шчымела, і я была адзінокая. Хутка я пачула, што мой хлопец ажаніўся з той дзяўчынай і ўжо чакаюць дзіцяці. Я, мусіць, звар'яцею. Як ён мог так зрабіць, скажы, Сэрцайка?

**Аня**

Аня! А як ты магла так рабіць, скажы мне?! Ён дык прынамсі не мусіць дыскутаваць са сваім сумленнем. Быў з табой, цяпер — з іншай, якую, магчыма, пакахаў, як і цябе калісьці. Кажуць, зрэшты, што клін клінам выганяюць. Вось і ён гэтак зрабіў. Відаць, пасля таго, што ўбачыў ён на ўласныя вочы, ты яму апрацівела. А ад кахання да нянавісці ўсяго адзін крок.

Табе здавалася, што яго каханне да цябе — гэта ўжо на ўсё жыццё. Ты можаш здзекавацца над яго пачуццямі, адыходзіць, вяртацца, гуляць з іншымі, а ён будзе сядзець, плакаць і чакаць цябе. А твой былы хлопец аказаўся мужчынам: праверыў, убачыў — і будзь здароў! Можа ён і мучыцца, але да цябе, бадай, не вернецца, а застанецца з іншай, мо лепшай у адносінах да яго.

У каханні найважнейшае — каб кахаліся ў адзін час. Спачатку ён быў закаханы без памяці, а калі цябе кінуў — вар'яцееш ты. Позна ўжо. Няхай жыве здаровы. Не прабуй разбіваць яго сям'ю, гэта прынесла б табе яшчэ больш расчараванняў.

**Сэрцайка**